


# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

10 ліпеня 2020 года №28 (1315) 18+


# Валожынскія валанцёры, медыкі і райвыканкам разам змагаюцца з каронавірусам

Злева направа: валанцёры Аляксей Віршыч, Веранiка Курбаева і Кацярына Надуліна-Згірская.
Фота Уладзіслава ЮРКОВА.

старонка 2



**Настаўнік з Міхалішкаў расказаў, як лячыўся ад каронавіруса і двухбаковай пнеўманіі**

старонка 5

ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# Праз валанцёрства прыйшлося звяртацца да псіхолага

ВАЛОЖЫН

**У красавіку пра Валожын, дзякуючы валанцёрам, даведалася ўся Беларусь. Рух дапамогі хворым падтрымала большасць валожынцаў.**

Я сустракаюся з валанцёрамі, ад якіх пачаўся гэты рух. За сталом – бухгалтар і кандытар **Кацярына Надуліна-Згірская**, прадавец **Вераніка Курбаева** і айцішнік **Аляксей Віршыч**.

### Усё пачалося з рэцэпта для мамы

Пачалося з таго, што Вераніка пайшла ў бальніцу выпісаць рэцэпт для мамы. У чарзе атрымала паведамленне ў бацькоўскім вайбер-чаце: «Тэрміноватэрмінова збіраем грошы для бальніцы».

– Я чалавек просты, падышла да загадчыка і спытала, што трэба? Загадчык кажа: нічога не трэба.

Вераніка напісала пра гэта ў чат, але з ёй пачалі спрачацца. Усе ведалі, што радзільны корпус мясцовай бальніцы перапрафілявалі ў інфекцыйнае аддзяленне. Прыйшлося вяртацца да загадчыка.

– Людзі хвалююцца, ходзяць розныя чуткі, калі нешта трэба, то кажыце, – настойвала Вераніка.

Загадчык адказаў, што даведаецца, ці трэба нешта, і паведаміць. На наступны дзень ён патэлефанаваў, сказаў, што патрэбныя ручнікі, крэмы. Апублікавалі спіс у мясцовай суполцы ў сацсетках. Пачаліся званкі і паведамленні.

– Я тэлефон выпускала толькі ноччу. У краме, дзе я працую, усё было завалена пакетамі. З бальніцы дасылалі спіс неабходнага, валанцёры ўсё закуплялі і адвозілі.

– Узяць тыя ж сушылкі. Ацпленне ўжо выключылі і прасушваць рэчы пасля стэрылізацыі не было дзе, – распавядае Вераніка і дадае: – Нават пры наяўнасці грошай многія пазіцыі не было дзе купіць.

### Поспех – ва ўзаемадзеянні ўлады, валанцёраў і медыкаў

Пік працы прыйшоўся на красавік. Пазней медыкаў, якія кругласутачна жылі ў корпусе, сталі выпускаць дадому. І яны самі закуплялі крэмы, смеццевыя пакеты. Тады актывісты свае сілы накіравалі на тых, хто працуе на выездзе.

У іх змена шэсць-восем гадзін, і ўвесь час – у поўным абмундзіраванні. Дапамагалі з вадой, канцылярыяй, куплялі батончык перакусіць медыкам у дарозе, – успамінае Вераніка. – Мы не імкнуліся забяспечыць усім, а хацелі падтрымаць іх маральна.

Цікаўлюся ў валанцёраў, як на іх актыўнасць рэагуюць медыкі.

– Спачатку не ўсе ў нас верылі, – кажа Аляксей. – Многія ўжо чулі пра справы супраць медыкаў. [У маі па «справе медыкаў» за хабар асудзілі шэсць дактароў (заўвага аўтарскага)]. Яны баяліся. І мы баяліся. Але ў выніку пайшло ўзаемадзеянне паміж бальніцай, органамі кіравання і намі. Тады ўсё стала лёгка. Нешта трэба? Калі ласка. Шмат хто з улады сам дапамагаў нашай ініцыятыве як простыя грамадзяне, на ўмовах ананімнасці.

Вераніка раскazвае, што сачыла ў інтэрнэце за працай мінскай групы ByCovid19:

> **– У мінскай групе чытаеш: актывісты тэлефануюць кудысьці, а адміністрацыя кажа: «Нам нічога не трэба». А ў нас загадчык аддзялення не пабаяўся і адказаў, што дапамога патрэбная.**

Ва ўзаемадзеянні мясцовай улады і актывістаў бачыць сакрэт поспеху валожынскіх валанцёраў і Аляксей:

– Добра, што мясцовыя ўлады не замінalі. Мы разам з намеснікам старшыні выканкама і галоўным доктарам працавалі адной камандай. А пазней нам уручылі граматы, апублікавалі некалькі артыкулаў у прэсе.

Усе трое актывістаў валанцёрылі ў вольны ад працы час. Цікаўлюся, як да гэтага паставіліся іх працадаўцы. Аказалася, працадаўцы ўсіх падтрымлівалі. А некаторыя самі дапамагалі ініцыятыве.

### Ці верыць афіцыйнай статыстыцы

Пытаюся, ці вераць актывісты ў афіцыйную статыстыку. Дзяўчаты адмоўна качаюць галовамі. Кацярына ўдакладняе:

– Не веру. Нават калі афіцыйная статыстыка дакладная, то яна прывязаная да колькасці тэстаў. Правялі 10-15 тысяч аналізаў, сярод іх выявілі 900 станоўчых выпадкаў. А ў рэальнасці такіх людзей могуць быць тысячы. Асаблівa слаба верыцца ў колькасць памерлых.

– Нізкая статыстыка захворвання дазваляе людзям расслабіцца, – лічыць Вераніка.

– Статыстыку трэба лічыць тады, калі ўсё скончылася, – адказвае Аляксей.

### Як цяпер складваецца сітуацыя з кавідам у Валожыне?

Вераніка:

– У нас няма інфармацыі. Гэта нешта накшталт медыцынскай таямніцы. Большасць хворых у шпіталі не мясцовыя. Іх прывезлі і павезлі. Мясцовых гэта мала датычыць.

Пытаюся, ці няма сярод валанцёраў выгарання.

Аляксей распавядае, што ўсе праходзілі праз гэта, а Веранiцы і Кацярыне прыйшлося хадзіць да псіхолага. Бо разам са стрэсам ад каронавіруса абвастрыліся і старыя асабістыя праблемы. Але Вераніка адзначае, што адкрыліся і новыя крыніцы натхнення.

– Я не думала, што буду шчаслівая ад таго, што мне прывезлі вядро ахоўных акуляраў або ўдалося знайсці дэфіцытны тавар.

А самае галоўнае – гэта тая падтрымка, якую аказалі валанцёрам земляки:

– У нейкі момант здалося, што Валожын – гэта асобная дзяржава. Падняўся сапраўды ўвесь раён. Нам перадавалі тавары з Ракава, Івянца, землякі з Мінска, якія ўжо 10-15 гадоў не жывуць у Валожыне. А з такой падтрымкай усе праблемы здаюцца вырашальнымі.

**Уладзіслаў ЮРКОЎ.**
**Фота аўтара.**



Вераніка Курбаева паказвае грамату, атрыманую за валанцёрства ад Валожынскага райвыканкама.


Ілюстрацыя rec.gov.by

# Дзе ў рэгіёне дазволілі праводзіць сустрэчы з кандыдатамі ў прэзідэнты

**«РГ» распавядае, дзе кандыдатам у прэзідэнты дазволілі праводзіць мітынгі ў гэтай выбарчай кампаніі.**

30 чэрвеня ЦВК апублікаваў колькасць подпісаў прэтэндэнтаў у кандыдаты.

Цяпер у выбарчай гонцы засталіся **Віктар Бабарыка**, **Святлана Ціханоўская**, **Андрэй Дзмітрыеў**, **Ганна Канапацкая**, **Сяргей Чэрачань**, **Аляксандр Лукашэнка**. **Валеры Цапкала**, як паведамілі ў ЦВК, застаўся з прыкладна 75 тысячамі подпісаў – для далейшай барацьбы неабходна 100 тысяч. 1 ліпеня Цапкала на прэсавай канферэнцыі заявіў, што рашэнне ЦВК штаб будзе абскарджваць.

У гэты ж час раённыя выбарчыя камісіі ўзгаднілі спіс месцаў, дзе будучыя кандыдаты змогуць праводзіць сустрэчы. Нагадаем, колькасць кандыдатаў дакладна будзе вядомая 14 ліпеня.

### Ашмяны

Ашмянскі райвыканкам вызначыў памяшканні і месцы, дзе кандыдатам у прэзідэнты будзе дазволена праводзіць сустрэчы з ініцыятыўнымі групамі і выбаршчыкамі.

У апавяшчальным парадку праводзіць масавыя мерапрыемствы ў Ашмянах дазволілі толькі на пляцоўцы перад будынкам ФАКа на вуліцы Савецкай, 1.

Таксама Ашмянскі райвыканкам дазволіў праводзіць сустрэчы ў памяшканнях раённага Цэнтра культуры і ў аграрна-эканамічным каледжы.

У раёне кандыдатам можна сустракацца з выбаршчыкамі ў сямі залах устаноў культуры розных населеных пунктаў: Гродзі, Гальшаны, Крэйванцы, Жупраны, станцыя Ашмяны, Навасёлкі, Будзёнаўка.

### Астравец

У Астраўцы дазволілі праводзіць масавыя сустрэчы з паведамленнем аб іх на пляцоўцы каля ФАКа па вуліцы Квятковай, 4.

Таксама ў Астраўцы кандыдатам можна будзе збірацца ў дзвюх залах: кінаканцэртнай зале «Астравец» і актавай зале школы №3.

У залах устаноў культуры ў Гервятах, Варнянах, Міхалішках, Рытані, Малі, Вароні, Рымдзюнах, Падольцах, Гудагаі таксама кандыдаты могуць праводзіць сустрэчы з выбаршчыкамі.

### Смаргонь

Смаргонскі райвыканкам дазволіць кандыдатам праводзіць масавыя мерапрыемствы з апавяшчэннем аб іх у скверы па вуліцы Сініцкага.

Сустрэчы ў Смаргоні можна будзе праводзіць у залах школы №6, політэхнічным каледжы. У раёне прапанавалі залы клубных устаноў культуры ў Жодзішках, Вішневе, Залессі, Крэве, Солах, Белькаўшчыне. У аграгарадку Сінькі – у зале навучальна-педагагічнага комплексу Сінькаўскіх ясляў-сада-сярэдняй школы.

### Валожын

У Валожыне ў апавяшчальным парадку кандыдатам у прэзідэнты можна праводзіць масавыя мерапрыемствы на стадыёне мікрараёна Сельгастэхніка.

Сустрэчы ў памяшканнях у раённым цэнтры можна будзе праводзіць толькі ў Цэнтры культуры. У Івянцы з кандыдатамі выбаршчыкі будуць сустракацца ў мясцовай дзіцячай школе мастацтваў. У Ракаве – у цэнтры народнай творчасці, у аграгарадку Доры – у школе мастацтваў. У залах устаноў культуры – у Сакаўшчыне, Багданаве, Судніках, Пяршаях.

Валожынскі райвыканкам адзначае, што праводзіць сустрэчы ў памяшканнях можна будзе ва ўстановах раёна пасля ўзгаднення з начальнікам гэтай установы.

### Мядзел

Мядзельскі райвыканкам вызначыў адну пляцоўку для правядзення масавых мерапрыемстваў з апавяшчэннем аб іх для кандыдатаў у прэзідэнты. У Мядзеле гэта пляцоўка мясцовага фізкультурна-аздараўленчага комплексу (вул. Набярэжная, д. 4).

У памяшканні з выбаршчыкамі кандыдатам дазволілі сустрэцца ў Мядзельскім Цэнтры культуры.

У Крывічах і Свіры выбаршчыкі з кандыдатамі могуць сустрэцца ў залах сельвыканкамаў. У Княгініне, Будславе, Старых Габах – навучальных класах мясцовых школ. У Занарачы і Святках – залах сельскіх устаноў культуры. А ў Нарачы дазволілі праводзіць сустрэчы ў Цэнтры культуры.

### Маладзечна

Маладзечанскі райвыканкам вырашыў выдзеліць адно месца для правядзення масавых мерапрыемстваў для кандыдатаў – гарадскі стадыён.

У Маладзечне ў памяшканнях дазволілі праводзіць сустрэчы ў двух месцах: у цэнтралізаванай клубнай сістэме Маладзечанскага раёна і ў канферэнц-зале ДЮСШ «Алімпік-2011».

У раёне сустрэчы ў памяшканнях будуць праходзіць ва ўстановах культуры. Такімі месцамі забяспечаныя населеныя пункты: Радашкавічы, Беразінскае, Гарадок, Краснае, Лебедзева, Маркава, Алёхнавічы, Палачаны, Хажова, Чысць, Вязынка.

### Вілейка

Вілейскі райвыканкам вырашыў, што масавыя мерапрыемствы кандыдатаў на вуліцы будуць праводзіць па адным адрасе: сквер у лазні №1 па вуліцы Садовай, 5.

Сустрэчы ў памяшканнях у Вілейцы дазволілі праводзіць у Палацы культуры. У Вязыні, Даўгінаве, Іжы, Ільі, Куранцы, Лукаўцы, Любані, Людвінове і Нарачы – у мясцовых установах культуры.

**Настасся УТКІНА.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**17 614** тон

Столькі рыбы вылавілі з вадаёмаў Беларусі ў 2019 годзе

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 2.03 | 9.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.4243 | **2.4399** |
| Еўра | 2.7228 | **2.7547** |
| Злоты, 10 | 6.0953 | **6.1458** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4159 | **3.4301** |
| Грыўня, 100 | 9.0442 | **9.0417** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 1.03 | 8.03 |
| Еўра | 2.6600/2.7600 | **2.7000/2.7900** |
| Долар ЗША | 2.3800/2.4500 | **2.4000/2.4800** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | 1.03 | 8.03 |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 20,80 | **20,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,60 | **7,68** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | **5,20** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,30 | **6,30** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 10,50 | **10,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,90 | **16,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,35 | **2,20** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,50 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,60 | **1,70** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 1,80 | **0,80** |
| Бульба, 1 кг | 1,20 | **1,00** |
| Буракі, 1 кг | 1,30 | **1,50** |
| Капуста, 1 кг | 0,90 | **1,00** |
| Капуста пекінская, 1 кг | – | **2,20** |
| Морква, 1 кг | 1,95 | **1,90** |
| Памідоры, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Перац, 1 кг | 6,90 | **3,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,30 | **1,30** |
| Часнок, 1 кг | 6,50 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Бананы, 1 кг | 2,80 | **2,00** |
| Вінаград, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Грушы, 1 кг | – | **5,00** |
| Дыня, 1 кг | – | **3,50** |
| Кавун, 1 кг | – | **2,00** |
| Ківі, 1 кг | 7,80 | **7,90** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Нектарыны, 1 кг | 5,90 | **3,90** |
| Персікі, 1 кг | 5,50 | **3,90** |
| Чарэшні, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,50 | **4,00** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Следчыя ўзбудзілі крымінальную справу пасля наезду аўтамабіля на дзіця ў Насілаве

4 ліпеня ў Насілаве, на Маладзечаншчыне, кіроўца наехаў на пяцігадовага пешахода.

Па паведамленні афіцыйнага прадстаўніка УСК па Мінскай вобласці **Таццяны Беланог**, хлопчык быў ля краю праезнай часткі. Пасля наезду кіроўца адвёз яго ў бальніцу.

Вядома, што дзіця было на вуліцы з бабуляй. Жанчына размаўляла з суседзямі на супрацьлеглым баку вуліцы.

Следчыя ўзбудзілі крымінальную справу па частцы другой артыкула 317 Крымінальнага кодэкса – парушэнне правілаў дарожнага руху, што прывяло да цяжкіх цялесных пашкоджанняў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Вілейцы 12-гадовы хлопчык выбег пад колы «Мерсэдэса»

Аварыя з удзелам непаўналетняга пешахода здарылася на вуліцы Савецкай у Вілейцы. Хлопчык трапіў пад колы легкавіка, перабягаючы дарогу.

За рулём «Мерсэдэса» знаходзілася мясцовая жыхарка 1995 года нараджэння, распавялі МЛЫН.BY ў Вілейскай ДАІ.

Кіроўца рухалася з боку вуліцы Шубіна ў кірунку плошчы Свабоды. У гэты момант хлопчык перабягаў дарогу да дома №91 па вуліцы Савецкай і трапіў пад колы машыны. З ранкамі і ўдарамі пешахода даставілі ў маладзечанскую бальніцу.

**Паводле mlyn.by.**

## Паляванне на кратоў для маладзечанскага пенсіянера скончылася трагедыяй

У вёсцы Вытрыскі на Мядзельшчыне сям'я пенсіянераў з Маладзечна жыве ў вясновa-летні перыяд.

Мужчына ў агародзе каля дома самастойна ўсталяваў металічныя пруты, да іх прыкруціў часткі правадоў, якія падключаў да разеткі 220 вольт. Са слоў жонкі, так ён пры дапамозе правадоў адпуджваў кратоў ад агарода.

25 чэрвеня мужчына займаўся сваімі справамі ў двары дома. Праз гадзіну жонка знайшла мужа ў агародзе без прыкмет жыцця. Брыгада «хуткай» канстатавала смерць мужчыны.

На момант агляду ў правай руцэ пенсіянера быў металічны прут арматуры з прыкручаным провадам. На далоні – ранкі па тыпу электраметкі, аналагічную адметку знайшлі на паясніцы злева.

Раённы аддзел Следчага камітэта праводзіць праверку.

**Паводле narachanka.by.**

## У Валожынскім раёне бус уляцеў у МАЗ. Сем чалавек шпіталізавалі

2 ліпеня ў Валожынскім раёне мікрааўтобус уляцеў у МАЗ. У выніку ДТЗ сем чалавек апынуліся ў бальніцы.

Каля 10 гадзін на 81-м кіламетры аўтадарогі М6 Мінск-Гродна пасажырскі мікрааўтобус «Мерсэдэс» сутыкнуўся са спадарожным грузавіком МАЗ.

У выніку аварыі пацярпелі сем пасажыраў іншамаркі, усе яны дастаўленыя ў бальніцу.

За рулём знаходзіўся мужчына, які, па папярэдняй інфармацыі, заснуў за рулём.

**МУС Беларусі.**

## У вёсцы Азаркі-Пудавінка гарэў гараж

У 9:00 30 чэрвеня выратавальнікам Мядзельшчыны паступіла паведамленне аб тым, што ў вёсцы Азаркі-Пудавінка гарыць драўляны, абабіты лістамі бляхі гараж.

У выніку пажару пашкоджаны дах, сцены і маёмасць. Прычына пажару высвятляецца. Верагодна, кароткае замыканне электраправодкі прывяло да загарання.

**Паводле narachanka.by.**

## За вялікія выхадныя пяць аварый, адзін нецвярозы бяспраўнік

За выхадныя ад 3 да 5 ліпеня ў Маладзечне здарылася пяць аварый.

Па гэта расказала афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскай дзяржаўтаінспекцыі **Дыяна Галуза**.

Найбольш сур'ёзнае здарэнне адбылося ў 18:20 3 ліпеня.

40-гадовы маладзечанец ехаў ад вуліцы Льва Талстога да скрыжавання Віленскай і Валынца. Пры паварoце налева ён, кіруючы «Фольксвагенам», не саступіў дарогу «Вольве».

Кіроўца «Фольксвагена» не меў правоў, за рулём быў нецвярозы. Экспертыза паказала ў крыві 1,90 праміле алкаголю.

**Аддзел інфармацыі.**



Аляксандра Новіка аштрафавалі за непадпарадкаванне супрацоўнікам АМАПа.

# Маладзечанца затрымалі пасля таго, як ён сфатаграфаваў амапаўцаў

**3 ліпеня Аляксандра Новіка затрымалі ў маладзечанскім парку за непадпарадкаванне супрацоўнікам АМАПа. Перад затрыманнем ён сфатаграфаваў амапаўцаў.**

3 ліпеня прыкладна ў 16 гадзін Аляксандра Новіка затрымалі ў парку каля амфітэатра. Па яго словах, ён не адмаўляўся пайсці з амапаўцамі, але не хацеў ехаць на іх аўто.

– Ведаеце, бачыў, як затрымлівалі людзей у Мінску. Мне стала страшна, інстынктыўна зрабіў крок назад, – распавёў Аляксандр.

У пратаколе амапаўцаў, які пасля агучылі на судзе, адзначаецца, што мужчына ўпіраўся нагамі і рукамі, неаднаразова адмаўляўся прайсці ў службовую машыну АМАПа. На судзе таксама паказалі відэазапіс затрымання Аляксандра. На запісе ён робіць толькі крок назад і яго пачынаюць затрымліваць.

Да суда Аляксандр знаходзіўся ў ізалятары часовага ўтрымання. А 6 ліпеня яго судзілі па адміністрацыйным артыкуле 23.4 КаАП «Непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы пры выкананні ёй службовых паўнамоцтваў». Суддзя **Інэса Южык** прызнала маладога чалавека вінаватым і прызначыла штраф у памеры 10 базавых велічынь (270 руб.).

7 ліпеня ў сацыяльных сетках МУС Беларусі з'явілася відэа, на якім Аляксандр просіць прабачэння за тое, што здымаў на камеру супрацоўнікаў:

– 3 ліпеня я здымаў супрацоўнікаў у парку. Па дурасці. І для таго, каб проста «хайпануць» у «Тэлеграме». Я ў далейшым абяцаю, што больш ніколі не буду нічога рабіць супрацьзаконнага і супрацьпраўнага.

«РГ» звязалася з Аляксандрам, каб той пракаментаваў відэазапіс.

– Не бачыў гэта відэа. Мяне не прымушалі, але памятаю, як здымалі. Здымаў чалавек, які быў у цывільным. Ён сказаў, што запісвае відэа на ўсялякі выпадак, калі я яшчэ раз што-небудзь такое зраблю. Не казалі, што гэта відэа будзе ў інтэрнэце.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

## У Маладзечне міліцыя знайшла 85-гадовую пенсіянерку

Валанцёры пошукава-выратавальнага атрада «Анёл» уначы 5 ліпеня атрымалі паведамленне пра тое, што ў Маладзечне знікла 85-гадовая пенсіянерка.

«Анёлы» аператыўна размясцілі арыенціроўку ў інтэрнэце, але праз дзве з паловай гадзіны сваякі заявілі, што бабуля знайшлася.

Па словах каардынатара «Анёла» **Крысціны**, пра зніkненне пенсіянеркі паведаміла яе ўнучка 5 ліпеня ў дзве гадзіны ночы. Жанчына жыве адна. Яна сышла з дому 4 ліпеня каля паловы дзявятай вечара.

Праз некалькі гадзін пасля паведамлення аб знікненні стала вядома, што пажылую жанчыну знайшлі супрацоўнікі міліцыі.

**Паводле mlyn.by.**

## У ашмянца скралі 100 рублёў праз інтэрнэт

У Следчым камітэце па Гродзенскай вобласці паведамілі пра крадзеж грошай праз інтэрнэт у жыхара Ашмянаў .

41-гадовы мужчына праз гандлёвую інтэрнэт-пляцоўку прадаваў вазу.

Пасля дасягнутай дамоўленасці аб цане, яму даслалі спасылку, у якой неабходна было запоўніць звесткі па яго банкаўскай картцы.

Пацярпелы 29 чэрвеня самастойна ўвёў усе неабходныя рэквізіты, пасля чаго чакаў папаўнення балансу, а ў выніку страціў 100 рублёў.

**Паводле grodnonews.by.**

## На Маладзечаншчыне гарэла лазня. Верагодна, з-за перапалу печкі

Пра тое, што гарыць лазня ў вёсцы Раеўшчына Маладзечанскага раёна, у службу МНС паведамілі гаспадары пабудовы 6 ліпеня каля трох гадзін ночы.

Калі прыехалі выратавальнікі, лазня гарэла адкрытым полымем. Была небяспека, што загарыцца надворная пабудова побач.

Агонь знішчыў дах лазні, сцены выгаралі знутры. Загарання другой надворнай пабудовы не дапусцілі. Прычына пажару ўстанаўліваецца. Разглядаюцца парушэнне правілаў эксплуатацыі печаў, цеплагенерыруючых агрэгатаў і прылад альбо парушэнне правілаў прылады і эксплуатацыі электраабсталявання, паведамляюць у ГРАНС Маладзечна.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Планета Беларусь.

На фота – аграгарадок Міхалішкі, дзе жыве наш герой. На пачатак чэрвеня захварэлых там было двое.

# Настаўнік з Міхалішкаў: «Каронавірус – не псіхоз, а цяжкая небяспечная хвароба»

**Жыхар Міхалішкаў, настаўнік адной са сталічных школ і спартсмен, Казімір Бабіч, нядаўна вярнуўся дамоў з астравецкай бальніцы. Там мужчына лячыўся ад каронавіруса і двухбаковай пнеўманіі.**

АСТРАВЕЦ

### Калі пабачылі пнеўманію на КТ, дамоў не адпусцілі

У №24 «Рэгіянальнай газеты» ад 12 чэрвеня мы пісалі пра тое, што на пачатку чэрвеня ў яго пацвердзіўся каронавірус, а крыху пазней на КТ, якое зрабілі ў Астравецкай ЦРБ, убачылі двухбаковую пнеўманію. Пасля такіх вынікаў даследавання дамоў хворага ўжо не адпусцілі, адразу паклалі ў бальніцу.

**– У дзень, калі мяне павезлі на КТ, адкрываўся новы корпус інфекцыйнага аддзялення Астравецкай ЦРБ. Я быў у першай пяцёрцы хворых, якіх накіравалі туды.**

Палаты там называюць боксамі. У маім боксе ўжо ляжаў работнік Астравецкай АЭС. Увогуле палаты разлічаны на двух чалавек. Але пасля іх ушчыльнілі. І ўжо ляжала па трое хворых, – расказвае суразмоўца.

Адзначае, што вельмі прыемна ўразілі адносіны астравецкіх медыкаў да хворых. Вельмі ўдзячны загадчыцы інфекцыйнага аддзялення **Віталіі Лашкоўскай**, нядаўняй выпускніцы Гродзенскага медінстытута, і медсёстрам:

**– Яны ў такую спёку працуюць у гэтых касцюмах, што не прапускаюць паветра. У іх сапраўды вельмі цяжкая праца.**

### На балконе дазвалялі падыхаць і пагаварыць з наведнікамі

Штодзень пасля 17:00 хворых пускалі на балкон падыхаць свежым паветрам. Перадачы прымалі. Наведнікаў, вядома, не пускалі. Але з імі можна было пагутарыць проста з балкона.

Па назіраннях суразмоўцы, хворыя на кавід, што ляжалі з ім у новым інфекцыйным аддзяленні Астравецкай ЦРБ, – гэта людзі розных узростаў. Шмат сярод іх работнікаў АЭС. Кажа, ляжаць цэлымі брыгадамі. Шмат жанчын, мужы якіх працуюць на будаўніцтве атамнай станцыі.

**– Разам са мной у палаце ляжаў работнік БелАЭС з Валгадонска. У яго была вельмі высокая тэмпература – да 39,8.**

Я клікаў, калі бачыў, што яму зусім кепска, медсясцёр, а тыя ставілі кропельніцы, – працягвае Казімір. – Шмат каму з хворых патрэбны былі кропельніцы, таму медсястра ледзь паспявала.

### 16 гадзін у суткі – ляжаць на жываце

Па словах суразмоўцы, каб лёгкія дыхалі лепш, 16 гадзін у суткі рэкамендавалі ляжаць на жываце. Давалі ўколы-антыбіётыкі і таблеткі ад малярыі, якія дапамагаюць пры каронавірусе. Перад тым, як лячыцца гэтымі таблеткамі, хворы падпісваў паперу, што не супраць.

Падчас хваробы спадара Казіміра падтрымлівалі маральна сын і дачка, сябры, калегі. Тэлефанаваў дырэктар школы, у якой працуе настаўнік.

У бальніцы праляжаў 11 дзён. Калі загадчыца ўбачыла, што хвораму значна лепш, прапанавала далячыцца дома на самаізаляцыі. Прапанову мужчына прыняў. Крыху больш за тыдзень далечваўся дома. За гэты час хворага наведвала доктар з астравецкай паліклінікі **Аляксандра Краскоўская**. А бальнічны прыязджаў закрываць іншы доктар – **Аляксандр Чубрык**. Спадар Казімір удзячны ім за чалавечныя і прафесійныя адносіны. Разам з бальнічным далі спецыяльную выпіску, што можна ехаць за мяжу. Казіміру Бабічу гэты дакумент патрэбны, бо ў Літве жыве яго дачка.

### Расслабляцца рана

– Хачу папярэдзіць усіх людзей. Асабліва маладых, якія могуць пераносіць хваробу бессімптомна і заражаць іншых. Выконвайце меры бяспекі: трымайце дыстанцыю, насіце маскі ў людных месцах, мыйце рукі. Ад вашых паводзін залежыць жыццё і здароўе іншых. Людзі расслабіліся, супакоіліся. Масава едуць адпачываюць на рэкі і азёры. Але хвароба нікуды не сышла. Вось ехаў на працу, вёз бальнічны. У метро – поўны вагон. А наліччыў чатыры маскі. Так не павінна быць.

**Перахварэўшы, я ўпэўнены: каронавірус – гэта ніякі не псіхоз, а цяжкая і небяспечная хвароба, – падсумаваў суразмоўца.**



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06


Фота забяспечана Ігарам КІЦІКАВЫМ.

Творчая група ля новага твора.

## Ля каледжа з'явіліся персанажы мясцовай легенды

ВІЛЕЙКА

**Аўтар скульптурнай кампазіцыя – віляйчук Валеры Апарык. Ідэйны натхняльнік – дырэктар каледжа Ігар Кіцікаў.**

– Неяк прачытаў у Адама Кіркора легенду пра Чорта, які заслаўся на раку Вілію і хацеў засыпаць яе ля вёскі Малмыгі. Вёска знаходзілася паміж Куранцом і Вілейкай, а цяпер затопленая вадасховішчам, – расказвае Ігар Сямёнавіч. – З гэтай мэтай Чорт прыцягнуў мех зямлі. Калі ён з мехам набліжаўся да ракі, заспяваў певень. Чорт спалохаўся і высыпаў зямлю. Утварыўся курган, які сталі называць Чортавай гарой.

Дарэктар каледжа крыху апрацаваў легенду, расказаў яе майстру Валерыю Апарыку. І ў выніку легенда ўвасобілася ў камені.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Юныя турысты стартавалі па Віліі шляхам Тышкевіча

ВІЛЕЙКА

З ліпеня краязнаўца і педагог **Міхаіл Петух** разам з групай юных турыстаў з клуба «Чарапашкі» стартаваў па Віліі пад дэвізам «Шляхам Тышкевіча» ў памяць аб экспедыцыі па рацэ Віліі графа Канстанціна Тышкевіча (1857 год).

Да юных вілейскіх турыстаў далучыліся таксама турысты з Ашмянаў, Смаргоні і іншых гарадоў. Вілейскі райвыканкам дазволіў зладзіць бівак – абсталяванае месца адпачынку – у Ніжнім Парку, у Вілейцы, з захаваннем усіх мер бяспекі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Заняла другое месца на абласной спартакіядзе школьнікаў

МАЛАДЗЕЧНА

Па выніках абласной спартакіяды школьнікаў у 2019/2020 навучальным годзе каманда Маладзечанскага раёна атрымала дыплом II ступені, памятны кубак і спартыўны інвентар, паведамляюць ва ўпраўленні адукацыі Маладзечанскага райвыканкама.

Актыўны ўдзел у спаборніцтвах прынялі вучні маладзечанскай сярэдняй школы №1 імя Янкі Купалы, гімназіі №7 Маладзечна, сярэдняй школы №14 Маладзечна, Палачанскай сярэдняй школы Маладзечанскага раёна.

**Аддзел інфармацыі.**

## Узнаўляюць рух некаторыя прыгарадныя аўтобусы

ВІЛЕЙКА

З-за зніжэння колькасці пасажыраў Вілейскі аўтапарк №5 на пэўны час адмяніў рэйсы прыгарадных аўтобусаў. Ад 3 ліпеня некаторыя з іх аднавілі рух, паведамляюць у аўтапарку.

Глядзіце якія:

№444 «Вілейка-Маладзечна». Штодзённа з аўтавакзала ў Вілейцы аўтобус адпраўляецца ў 15:05. З аўтавакзала ў Маладзечне – у 17:00.

№441с «Вілейка-Маладзечна» праз Шылавічы. Штодзённа з аўтавакзала ў Вілейцы – у 6:00. З аўтавакзала ў Маладзечне – у 8:40.

№211с «Вілейка-Забалацце». З аўтавакзала ў Вілейцы – па суботах у 6:00 і 14:55.

№209с «Вілейка-Селішча». З аўтавакзала ў Вілейцы – па нядзелях у 6:30.

№206с «Вілейка-Рускае Сяло». З аўтавакзала ў Вілейцы – па суботах у 14:30.

№215с «Вілейка-Лыцавічы-Баравыя». З аўтавакзала ў Вілейцы – па аўторках і чацвяргах у 13:10; па панядзелках, серадах і суботах – у 18:45.

№218с «Вілейка-Бубны». З аўтавакзала ў Вілейцы – па суботах у 17:20, па панядзелках, серадах і суботах – у 18:45.

**Паводле Вілейскага аўтапарка №5.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае



**Дзе падаць аб’яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Сітраэн ZX, 1993 г.в., 1,4 бензін, на хаду. Т. Вэлком (8-044) 4522441.*

• Прычэп «Зубраня», добры стан, мала эксплуатаваўся. Т. (8-044) 4703638.

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі да Аўдзі-80, 1985 г.в. Т. (8-029) 5024571.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3265724, (8-033) 3631161.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Матацыкл стары К-750, Ява, Мінск, Іж на запчасткі. Т. (8-029) 6153865.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1,5-пакаёвая кватэра ў п. Беразінскае Маладзечанскага раёна, 21,5 тыс. рублёў. Т. (8-0176) 725959, (8-029) 2799029.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 6 мікраёаён, плошча 38,9 кв.м, лоджыя. Т. МТС (8-029) 5600627.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Першамайскай. Т. (8-029) 8600657.*

• Дача, участак 10 сотак, 4 км ад Смаргоні, за 200 м – возера. Т. (8-033) 3591382.*

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Дом у в. Добрая Зямля Валожынскага раёна. Чыгунка – 2,5 км. Рака, лес – 100 м. Т. (8-033) 3142808, (8-029) 2795589.

• Дом у в. Мікольцы Мядзельскага раёна. 99 кв. м, участак 30 сотак. Возера Нарач – 500 м. Маляўнічае месца. Калодзеж. Газ побач. Тэлефон, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 6078406, (8-029) 3070622.

• Участак у Чысці, 17 сотак. Газ, вада, каналізацыя, святло падведзеныя. На ўчастку зруб 6х8 з кругляка, пад дахам. Т. (8-044) 4658667, у Маладзечне 706357.*

### ЗДАМ

• Гараж 6х9 м у ГК №33 па вул. Міру ў Маладзечне. Т. (8-029) 5753932.*

• Пакой у Маладзечне. Т. (8-029) 5019550.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселле, юбілей, карпаратыў. Музычнае афармленне. Вядучы. ІП Язневіч Л.М. УНП 692245902 Т. (8-044) 5945440.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. Кансультацыя бясплатная. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ДЭМАНТАЖ**. ІП Буслаўскі А.І. УНП 691292601 Т. (8-029) 5417847, (8-029) 3057579.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ. АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЁЎ**. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Два вуллі дадамскія на 18 рамак у камплекце, дыстылятар, флягі малочныя 40 л, ёмістасці бляшаныя для кансервавання. Званіць пасля 20.00. Т. (8-033) 6317326.*



**Іншае**

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), падагравальнік для сумесі Philips Avent (40 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Тэл. (8-033) 3668181.*

• Дровы, дошкі. (8-029) 6106061.*

• Сена. Т. (8-029) 6879898. *

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Лопасці для флюгера. Т. (8-029) 5019550.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Разборка старых хлеўчыкаў, дамоў, печаў. Т. (8-025) 9227728.

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёна:

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591 |
| **Ашмяны** | -01593 |
| **Валожын** | -01772 |
| **Вілейка** | -01771 |
| **Маладзечна** | -0176 |
| **Мядзел** | -01797 |
| **Смаргонь** | -01592 |

# Як налічваюць дапамогу на дзяцей пасля трох год

**Публікацыя расказвае пра налічэнне дапамогі асобным катэгорыям сем'яў.**

Гэта пытанне рэгулююць наступныя дакументы – Закон «Аб дзяржаўнай дапамозе сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей» (далей – Закон), Палажэнне аб парадку прызначэння і выплаты дзяржаўнай дапамогі сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, зацверджанае пастановай Савета Міністраў (далей – Палажэнне). Вызначаная катэгорыя грамадзян, якія маюць права на дапамогу на дзяцей, старэйшых за тры гады з асобных катэгорый сямей (далей – дапамога асобным катэгорыям сямей).

Згодна з артыкулам 15 Закона, пры выкананні пэўных умоў права на дапамогу з асобных катэгорый сямей маюць маці (мачаха) або бацька (айчым) у поўнай сям'і, бацька або маці ў няпоўнай сям'і, усынавіцель (удачарыцель), апякун (папячыцель) пры выхаванні імі дзіцяці (дзяцей), старэйшых за тры гады, калі ў сям'і:

– выхоўваецца дзіця-інвалід ва ўзросце да 18 гадоў;

– выхоўваецца дзіця ва ўзросце да 18 гадоў, інфіцыраванае вірусам імунадэфіцыту чалавека;

– бацька (айчым) або усынавіцель (удачарыцель) праходзяць тэрміновую ваенную службу, альтэрнатыўную службу;

– абодва бацькі (маці (мачаха), бацька (айчым) у поўнай сям'і альбо бацькі ў няпоўнай сям'і, усынавіцель (удачарыцель) з'яўляюцца інвалідамі I ці II груп, а таксама калі адзін з бацькоў (маці (мачаха) або бацька (айчым) у поўнай сям'і з'яўляецца інвалідам I групы, а другі даглядае за ім і атрымлівае дапамогу, прадугледжаную заканадаўствам.

У адпаведнасці з артыкуламі 16 і 22 Закона дапамога асобным катэгорыям сямей прызначаецца штогод ад дня ўзнікнення права на яе (калі зварот за прызначэннем рушыў услед не пазней за шэсць месяцаў ад дня ўзнікнення такога права).

Днём узнікнення права на дапамогу з асобных катэгорый сямей з'яўляецца дзень:

– наступны за днём спаўнення дзіцяці ўзросту трох гадоў (пры першасным вызначэнні ступені страты здароўя дзіцяці ва ўзросце да трох гадоў);

– ад якога вынеслі рашэнне аб вызначэнні (перагляду) ступені страты здароўя дзіцяці, якому за тры гады.

Затым права на дапамогу асобным катэгорыям сямей разглядаецца штогод на 1 студзеня.

Дапамога прызначаецца пры выкананні наступных умоў:

– выхаванне дзяцей у сям'і (пры гэтым дзіця, што наведвае ўстанову адукацыі, не знаходзіцца на кругласутачным рэжыме знаходжання, а адносіцца да прыхаднога кантынгенту);

– калі на дату звароту па дапамогу, а таксама не менш як за шэсць месяцаў у агульнай колькасці ў каляндарным годзе, папярэднім годзе звароту па такую дапамогу, працаздольны бацька (айчым) у поўнай сям'і альбо хтосьці з працаздольных бацькоў у няпоўнай сям'і працуюць або ажыццяўляюць іншы выгляд дзейнасці ў Беларусі, які прыносіць заробак (даход), з якога выплачваюцца абавязковыя страхавыя ўнёскі ў бюджэт фонду або мае іншы від занятасці, прадугледжаны заканадаўствам.

Без уліку перыяду занятасці ў папярэднім годзе разглядаецца права на дапамогу асобным катэгорыям сямей, калі на дату звароту за ім працаздольны бацька (айчым) у поўнай сям'і альбо хтосьці з працаздольных бацькоў у няпоўнай сям'і:

– даглядаюць дзіця ва ўзросце да трох гадоў з атрыманнем дапамогі;

– з'яўляюцца атрымальнікамі пенсіі або штомесячнай страхавой выплаты па абавязковым страхаванні ад няшчасных выпадкаў на вытворчасці і прафесійных захворванняў, штомесячнае грашовае забеспячэнне па заканадаўстве аб дзяржаўнай службе, дапамогі па доглядзе дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 18 гадоў (далей – дапамогі па доглядзе дзіцяці-інваліда), інвалідам I групы, асобай, якая дасягнула 80-гадовага ўзросту, дапамогі на дзіця ва ўзросце да 18 гадоў, інфіцыраванага вірусам імунадэфіцыту чалавека.



Удакладняйце пытанні, звязаныя з дапамогай, у фондзе сацыяльнай абароны насельніцтва.

Дапамога асобным катэгорыям сямей прызначаецца на падставе пададзенай грамадзянінам заявы і пакета дакументаў, указаных у падпункце 2.12 пункта 2 Пераліку адміністрацыйных працэдур, што ажыццяўляюцца дзяржаўнымі органамі і іншымі арганізацыямі па заявах грамадзян, зацверджанага Указам №200 «Аб адміністрацыйных працэдурах, што ажыццяўляюцца дзяржаўнымі органамі і іншымі арганізацыямі па заявах грамадзян», і ў пункце 44 Палажэння.

Працуючым (студэнтам дзённай формы навучання) маці (мачасе) у поўнай сям'і, аднаму з бацькоў у няпоўнай сям'і, якія адносяцца да вышэйзгаданых катэгорый сямей, за разглядам магчымасці прызначэння дапамогі асобным катэгорыям сямей неабходна звярнуцца па месцы працы (вучобы). Калі маці (мачаха) ў поўнай сям'і не працуе, не вучыцца – па месцы працы мужа.

Калі абое з бацькоў у поўнай сям'і, бацькі ў няпоўнай сям'і працуюць у камерцыйнай арганізацыі з колькасцю да 15 чалавек уключна альбо з'яўляюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі, натарыусамі, адвакатамі, выплачваюць абавязковыя страхавыя ўнёскі, а таксама калі непрацуючы хтосьці з бацькоў у няпоўнай сям'і з'яўляецца атрымальнікам вышэй названых выплат, за разглядам магчымасці назначэння дапамогі неабходна звярнуцца ва ўпраўленне па працы, занятасці і сацыяльнай абароне раённага выканаўчага камітэта па месцы рэгістрацыі.

Напрыклад:

1). У поўнай сям'і выхоўваецца дзіця-інвалід 14 чэрвеня 2009 года нараджэння. Ступень страты здароўя дзіцяці вызначаная 15 студзеня 2015 года. Бацька адпрацаваў у 2018 годзе больш за шэсць месяцаў і быў звольнены 30 верасня 2019 года. Маці з'яўляецца атрымальнікам дапамогі па доглядзе за дзіцем-інвалідам.

Бацька дзіцяці ўладкаваўся на працу 16 сакавіка 2020 года і 25 сакавіка 2020 падаў па месцы працы заяву аб прызначэнні дапамогі асобным катэгорыям сямей і неабходныя дакументы. Днём узнікнення права на дапамогу ў 2020 годзе з'яўляецца 1 студзеня 2020. Паколькі ўмовы аб занятасці бацькі ў поўнай сям'і выкананыя і ён звярнуўся па дапамогу на працягу шасці месяцаў ад дня ўзнікнення права на яе, дапамога прызначаецца ад 1 студзеня 2020.

2). Маці ў няпоўнай сям'і, якая выхоўвае дзіця-інваліда 11 жніўня 2012 года нараджэння. Ступень страты здароўя дзіцяці першасна вызначаная ад 4 чэрвеня 2019 года. У 2019 годзе яна працавала ад 1 студзеня да 31 мая. Ва ўпраўленні па працы ад 4 чэрвеня з'яўлялася атрымальнікам дапамогі па доглядзе за дзіцем-інвалідам, на перыяд ад 4 чэрвеня да 31 снежня ёй прызначылі дапамогу асобным катэгорыям сямей.

Уладкавалася на працу 3 студзеня 2020 на поўную стаўку і па месцы працы 10 студзеня звярнулася на прызначэнне дапамогі асобным катэгорыям сямей з заявай і неабходнымі дакументамі. Улічваючы, што ўмовы занятасці маці ў няпоўнай сям'і выкананыя (5 месяцаў працавала і 7 месяцаў атрымлівала дапамогу па доглядзе за дзіцем-інвалідам), а таксама тое, што зварот па месцы працы па дапамогу рушыў услед на працягу шасці месяцаў ад дня ўзнікнення права на гэту дапамогу (днём узнікнення права ў 2020 годзе з'яўляецца 1 студзеня), дапамога прызначаецца ад 1 студзеня 2020.

3). Маці ў няпоўнай сям'і не працуе, з'яўляецца інвалідам II групы ад 16 лютага 2018. Атрымлівае пенсію па інваліднасці, выхоўвае дзіця 11 жніўня 2015 года нараджэння. Ва ўпраўленне па працы 24 студзеня 2020 падала заяву аб прызначэнні на 2020 год дапамогі асобным катэгорыям сямей і неабходныя дакументы (днём узнікнення права на дапамогу ў 2020 годзе з'яўляецца 1 студзеня). Паколькі яна з'яўляецца атрымальнікам пенсіі і звярнулася па дапамогу на працягу шасці месяцаў ад дня ўзнікнення права на яе, дапамогу прызначаюць ад 1 студзеня 2020.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць у Маладзечанскім раённым аддзеле Мінаблупраўлення фонду сацыяльнай абароны насельніцтва па тэлефонах: (8-0176) 74-63-16, 74-63-17 і ва ўпраўленні па працы Маладзечанскага райвыканкама па тэлефоне: 58-13-41.

**Маладзечанскі раённы аддзел Мінскага абласнога ўпраўлення фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.**

Яўгена Радзівілку затрымалі супрацоўнікі АМАПа, калі журналістаў папрасілі сысці ў бок вадаёмаў.

# АМАП затрымаў маладзечанца за бел-чырвона-белы сцяг і шарыкі ў парку

**3 ліпеня ў Маладзечне адзначалі Дзень Вызвалення і Дзень горада. Святочныя мерапрыемствы адбыліся з затрыманнем. Карэспандэнты «РГ» знаходзіліся на месцы падзей і расказваюць, што адбывалася ў цэнтры Маладзечна.**



Супрацоўнікі міліцыі вядуць Яўгена да пляцоўкі за амфітэатрам.

## Прывялі для гутаркі, а потым адвезлі ў РАУС

3 ліпеня каля шасці вечара ў парку Перамогі два міліцыянеры падышлі да лаўкі з кампаніяй людзей, сярод якіх быў хлопец у майцы з нацыянальнай сімволікай. Міліцыянеры прапанавалі яму прайсці з імі. Карэспандэнты «РГ» знаходзіліся на месцы падзеі.

Хлопца прывялі на пляцоўку за амфітэатрам. Там мелася адбыцца разводка асабовага саставу з інструктажам. Аб гэтым паведаміў супрацоўнік міліцыі, які прадставіўся начальнікам інспекцыі па справах непаўнагадовых **Аляксеем Посахам**.

Карэспандэнтам міліцыянеры патлумачылі, што прывялі хлопца для гутаркі. Журналістам не дазволілі прайсці разам з ім, каб высветліць акалічнасці гэтай справы. Аб далейшым лёсе маладога чалавека карэспандэнты даведаліся ад кампаніі людзей, з якой ён знаходзіўся ў парку.

Як распавялі журналістам людзі з яго кампаніі, хлопца завуць **Яўген Радзівілка**. Жанчына, **Анастасія**, якая аказалася жонкай Яўгена, паведаміла, што мужа адвезлі ў РАУС.

## Журналісты сышлі – затрымаў АМАП

4 ліпеня Яўген Радзівілка распавёў карэспандэнту «РГ» пра падзеі мінулага дня. Міліцыянеры падышлі да яго, калі ён сядзеў разам з жонкай і дзіцем у парку. Адзін з супрацоўнікаў папрасіў Яўгена прайсці з імі, каб правесці апытанне.

На пляцоўцы за амфітэатрам яго затрымалі супрацоўнікі АМАПа, калі карэспандэнтаў папрасілі сысці. Маладога чалавека адвезлі ў Маладзечанскі РАУС, дзе ён знаходзіўся да 23 гадзін. У аддзяленні склалі пратакол па частцы 2 артыкула 21.14 КаАП «Парушэнне правілаў добраўпарадкавання і ўтрымання населеных пунктаў» і пасля адпусцілі дадому.

– Мяне адпусцілі пасля феерверку. Далі падпісаць і азнаёміцца з пратаколам прыкладна ў 23 гадзіны.

У пратаколе пазначана, што 3 ліпеня ў 14:30 Яўген Радзівілка ў маладзечанскім парку прымацаваў бел-чырвона-белы сцяг, а таксама чырвоныя і белыя шарыкі да слупа.

– Паказалі здымак, які зрабілі з вялікай адлегласці, дзе нейкі чалавек стаіць спінай да камеры. Вось, можна і вас сфатаграфаваць цяпер, сказаць, што гэта былі вы. Па здымку зусім незразумела, што гэта за чалавек, – патлумачыў Яўген.

Памер шкоды будзе ацэньваць арганізацыя, якая адказвае за добраўпарадкаванне тэрыторыі парку. Санкцыя па частцы 2 артыкула 21.14 КаАП – штраф у памеры да 25 базавых велічынь.

Яўген Радзівілка не згодны з пратаколам.

## Па ўсёй Беларусі 3 ліпеня затрымалі 17 чалавек

Па дадзеных пазбаўленага дзяржаўнай рэгістрацыі праваабарончага цэнтра «Вясна», 3 ліпеня ў Беларусі затрымалі мінімум 17 чалавек.

У Гомелі затрымалі трох актывістаў. У Мастах у ізалятар часовага ўтрымання змясцілі сябра ініцыятыўнай групы Святланы Ціханоўскай за парушэнне артыкула аб несанкцыяніраваных масавых мерапрыемствах, пратакол за які яму склалі за некалькі дзён да 3 ліпеня. У Магілёве супрацоўнікі праваахоўных органаў затрымалі аднаго чалавека. У Барысаве затрымалі, а потым адпусцілі трох мужчын у майках з надпісам «3 ліпеня».

У Брэсце амапаўцы затрымалі сем чалавек, якія на вуліцы пляскалі ў ладкі. У Мінску затрымалі мужа і жонку, таму што яны «падазрона выглядаюць», аднак праз некалькі хвілін адпусцілі.



Тэкст і фота –
Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Беларусь 1

**6.10** Існасць [СТ].

**6.40, 0.10** Х/ф **«БАБОЧКИ И ПТИЦЫ».**

**8.25** Один день. Семейный детский дом.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** Смысл жизни. Ирина Дорофеева.

**9.45** Здоровье [СТ].

**10.35** Дача.

**11.10, 12.10, 15.45** Х/ф **«КУРОРТНЫЙ РОМАН».**

**15.15** Краіна.

**16.20, 19.10** Х/ф **«КУРОРТНЫЙ РОМАН 2».**

**21.00** Панорама.

**21.45** «На контроле Президента».

**22.00** «Славянский базар в Витебске». Видеодневник.

**22.10** XXIX Международный конкурс исполнителей эстрадной песни «Витебск 2020». День первый «Мировой хит».

**2.05** День спорта.

## Беларусь 2

**6.55** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.35** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**

**9.20, 21.05** Телебарометр.

**9.25** Х/ф **«ПУТЕВОДНАЯ ЗВЕЗДА».**

**10.45** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**11.30** Копейка в копейку.

**12.05** Камень, ножницы, бумага.

**12.35** «Верю не верю». Трэвел-шоу.

**13.30** Фэнтези «Оз: Великий и Ужасный».

**15.40** «Когда мы дома». Скетчком.

**16.10** «Меняю жену». Реалити-шоу.

**17.55** «Свадьба вслепую». Реалити-шоу.

**19.20** Х/ф **«ШЕСТЬ ДНЕЙ, СЕМЬ НОЧЕЙ».**

**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«ТОР: РАГНАРЕК».**

**23.25** «Орел и Решка. Спецвыпуск». Трэвел-шоу.

## Беларусь 3

**7.30** «Сіла веры».

**7.55, 13.35, 20.20** Навіны культуры.

**8.15** Гэты дзень.

**8.20** «Утаймавальніца тыграў». Мастацкі фільм.

**10.00** «Жывая культура». Традыцыя шанавання валуна «Нявесцін камень» (г.Ашмяны і вёскі раёна, Гродзенская вобласць).

**10.25** «Беларуская кухня». Капыткі з мачанкай.

**10.55, 19.45** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**11.20** «Беражыце жанчын». Мастацкі фільм СТ.

**14.00** XVIII Міжнародны дзіцячы музычны конкурс «Віцебск-2020». Частка 1-я. Прамая трансляцыя.

**15.30** «На вышыні». Вакалістка Ксенія Галецкая.

**15.45** «Следапыт». Мастацкі фільм.

**17.20** «Культурны рэпартаж».

**17.35** «Архітэктура Беларусі» СТ.

**18.00** XVIII Міжнародны дзіцячы музычны конкурс «Віцебск-2020». Частка 2-я. Прамая трансляцыя.

**19.30** «На вышыні». Вакаліст Іван Зданюк.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Маёр Ветраў». Мастацкі фільм СТ.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.

**7.10** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».

**7.45** ОНТ представляет: «По справедливости».

**8.00** Премьера ОНТ: «Беларусь. Геаграфія з біяграфіяй».

**8.05** «Михаил Танич.»На тебе сошёлся клином белый свет…».

**9.10** Т/с **«КАПЛЯ СВЕТА».**

**12.30** Премьера. «На дачу!» с Наташей Барбье.

**13.50** «Михаил Танич.»Не забывай».

**16.20** «Кто хочет стать миллионером?» с Дмитрием Дибровым.

**17.30** «Сегодня вечером».

**18.15, 21.20** «Сегодня вечером» Продолжение.

**20.00** «Наши новости». Субботний выпуск.

**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».

**21.10** ОНТ представляет: «Моя Беларусь».

**23.30** Х/ф **«НА МОРЕ!».**

## СТВ

**6.00, 0.40** «Пища богов».

**7.45** «Анфас».

**8.05** «Самая полезная программа».

**9.00** «Культура: свой путь». Документально-публицистический фильм из цикла «Свой путь».

**10.00** «Минск и минчане».

**10.30** «Центральный регион».

**11.00, 13.40, 16.40, 20.05** Т/с **«ЛИКВИДАЦИЯ».**

**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».

**19.55** «СТВ-спорт».

**23.15** «Территория заблуждений».

## Мир

**5.00** Х/ф **«ВЕСЕЛЫЕ РЕБЯТА».**

**5.20, 7.50** Мультфильмы.

**5.55** Х/ф **«РЕСТОРАН ГОСПОДИНА СЕПТИМА».**

**7.20** «Секретные материалы».

**8.35** «Наше кино. История большой любви».

**9.05** Ток-шоу «Слабое звено».

**10.00, 16.00, 19.00** Новости.

**10.10** Х/ф **«ДЕСЯТЬ НЕГРИТЯТ».**

**12.55, 16.15, 19.15** Т/с **«ДОМ ФАРФОРА».**

**23.10** Х/ф **«НИКИТА».**

**23.55** Международный фестиваль искусств «Славянский базар». Дневник.

**1.00** Концерт «Союзное государство приглашает…».

**2.30** Х/ф **«МАНИЯ ВЕЛИЧИЯ».**

**4.30** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ «ТУШЕНКА».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».

**6.10** Сегодня. Главное.

**6.15** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.50** «Истории ремонта».

**7.25** «Дача».

**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».

**8.20** «ЧП.by: Время итогов».

**8.55** «Города Беларуси».

**9.25** «Врачебные тайны плюс».

**10.25** Главная дорога.

**11.05** «Живая еда с Сергеем Малозёмовым».

**11.55** Квартирный вопрос.

**12.50** «Поедем, поедим!».

**13.40** Истории спасения.

**14.15** Х/ф **«МОРСКИЕ ДЬЯВОЛЫ».**

**16.25** «Секрет на миллион». Наталья Гулькина.

**18.10** «Следствие вели…».

**19.25** Т/с **«ДИНОЗАВР».**

**23.20** «Крутая История».

## Беларусь РТР

**7.00** Х/ф **«НЕ МОГУ СКАЗАТЬ «ПРОЩАЙ».**

**8.45** Х/ф **«ПРЕДСКАЗАНИЕ».**

**10.35** «По секрету всему свету».

**11.00, 20.00** ВЕСТИ.

**11.30** «Сто к одному».

**12.20** Х/ф **«ЛЕТОМ Я ПРЕДПОЧИТАЮ СВАДЬБУ».**

**14.10** ПРЕМЬЕРА. «Доктор Мясников».

**15.15** ПРЕМЬЕРА. «100ЯНОВ». Шоу Юрия Стоянова.

**16.20** Х/ф **«ПАПА ДЛЯ СОФИИ».**

**19.45** «Плюс-минус».

**20.50** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.

**22.35** Х/ф **«ТЫ ТОЛЬКО БУДЬ СО МНОЮ РЯДОМ».**

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 16.10** Другие. **8.00** После нашей эры. **9.45** Прощай, детка, прощай. **11.45** КИН. **13.30** Холодная гора. **18.05** Джейн Эйр. **20.10** Эмма. **22.25** Дорогой Джон. **0.20** Дракула. **2.25** День сурка. **4.15** Чужой билет.

### TV1000 ACTION

**6.55** Ужас Амитивилля: Пробуждение. **8.20** Париж: Город мёртвых. **9.55** Бессонная ночь. **11.40** Скалолаз. **13.35** Три девятки. **15.30** Газетчик. **17.25** Полиция Майами: Отдел нравов. **19.35** Ультрафиолет. **21.10** Пророк. **22.45** Время ведьм. **0.20** Терминатор 2: Судный день. **3.05** Терминатор 3: Восстание машин. **5.10** Терминатор: Да придёт спаситель.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.05** Дyxless 2. **9.00, 9.50, 10.45, 11.40, 12.40** Лондонград. Знай наших. **13.35** Пять невест. **15.25** Эбигейл. **17.20** Каникулы президента. **19.10** О чём говорят мужчины. **20.50** О чём ещё говорят мужчины. **22.30** Кома. **0.30** Окolофутбола. **2.10** Шпион. **3.55** Рубеж. **5.35** Селфи.

### ТВ3

**6.00, 10.00** Мультфильмы. **9.45** «Рисуем сказки». **10.45, 11.45** «Далеко и еще дальше». **12.45** Х/ф **«ТАЙНА СЕМИ СЕСТЕР». 15.15** Х/ф **«ЛОВУШКА ВРЕМЕНИ». 17.00** Х/ф **«ИСХОДНЫЙ КОД». 19.00** Х/ф **«ПЯТОЕ ИЗМЕРЕНИЕ». 21.15** Х/ф **«МЕНЯЮЩИЕ РЕАЛЬНОСТЬ». 23.30** Х/ф **«КОМАТОЗНИКИ». 1.45** Х/ф **«АТОМИКА». 3.00, 3.30, 3.45, 4.15, 4.30, 5.00, 5.30** «Странные явления».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«У КАЖДОГО СВОЯ ВОЙНА». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ДЕРЕВЕНСКАЯ КОМЕДИЯ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«РАЗВОД И ДЕВИЧЬЯ ФАМИЛИЯ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ОПЕРА. ХРОНИКИ УБОЙНОГО ОТДЕЛА. НОВАЯ ВЕРСИЯ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.40** Х/ф **«ДЕТИ СЕКСУ НЕ ПОМЕХА». 4.05** Х/ф **«ТАЧКА НА МИЛЛИОН». 6.15** Х/ф **«ЗАЩИТНЕГ». 8.05** Х/ф **«ШПИОН ПО СОСЕДСТВУ». 9.55** Х/ф **«ПРИМАДОННА». 12.05** Х/ф **«МАЛЬЧИКАМ ЭТО НРАВИТСЯ». 14.00** Х/ф **«ОДИННАДЦАТЬ ДРУЗЕЙ ОУШЕНА». 16.10** Х/ф **«ДВЕНАДЦАТЬ ДРУЗЕЙ ОУШЕНА». 18.35** Х/ф **«ТРИНАДЦАТЬ ДРУЗЕЙ ОУШЕНА». 20.55** Х/ф **«ВЫШИБАЛА». 22.35** Х/ф **«ВТОРАЯ ЖИЗНЬ УВЕ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.50** Т/с **«БЕГИ!». 1.50, 2.45, 4.20, 5.10** Т/с **«ПАПА НАПРОКАТ». 6.10, 7.15, 8.15, 9.20, 10.30, 11.35, 12.35, 13.40** Т/с **«ВРЕМЕННО НЕДОСТУПЕН». 14.40, 15.40, 16.45, 17.45, 18.45, 19.50, 20.50, 21.55** Т/с **«СМЕРТЬ В РАЮ». 22.55** Т/с **«МАММОН».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **9.25** Шоу «ГАЛИЛЕО». **10.00** Travel-шоу «СЕЛАПОЛЕТЕЛА». **10.40** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.40** Make-over шоу «РОГОВ В ГОРОДЕ». **12.40, 21.00, 2.55** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **14.40** Х/ф **«АНГЕЛЫ И ДЕМОНЫ». 17.15** Х/ф **«РОБИН ГУД: НАЧАЛО». 19.20** Х/ф **«ОЗ: ВОЗВРАЩЕНИЕ В ИЗУМРУДНЫЙ ГОРОД». 22.25** Х/ф **«НАЦИОНАЛЬНАЯ БЕЗОПАСНОСТЬ». 0.05** Х/ф **«ДЖОН УИК 2». 2.05** Юмористическое шоу «СЛАВА БОГУ, ТЫ ПРИШЁЛ!». **4.10** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Азбука спорта. **7.10, 22.25** Плавание. Кубок и первенство Беларуси. Финальные заплывы. **9.15** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 18-й тур. ФК Слуцк – ФК Ислочь. **11.05** Большой спорт. **11.50** Пляжный футбол. Чемпионат Беларуси. Плей-офф. Щучин – М-Сити (Мозырь). **13.05** Пляжный футбол. Чемпионат Беларуси. Плей-офф. Гродноoблспорт – Полесье (Кобрин). **14.20** Вот это спорт! **14.35** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **15.05** Пляжный футбол. Чемпионат Беларуси. Плей-офф. М-Сити (Мозырь) – Щучин. **16.20** Пляжный футбол. Чемпионат Беларуси. Плей-офф. Полесье (Кобрин) – Гродноoблспорт. **17.30** Смешанные единоборства. BFC. **20.20** Спорт-центр.

### EUROSPORT

**0.00** Автогонки. WTCR. Гейминг. Нинбо. **1.00** Покер. WPT Alpha8. **2.00** Снукер. Мировой Гран-при. Челтнем. Финал. **4.00, 11.00** Снукер. Welsh Open-2020. Финал. Мёрфи – К. Уилсон. **6.00** Автогонки. WTCR-2019. Макао. Вторая гонка. **6.30** Автогонки. WTCR-2019. Макао. Третья гонка. **7.00** Автогонки. WTCR-2019. Макао. Онлайн. **8.00** Автогонки. Формула E-2019/20. Мехико. **8.30** Автогонки. Формула E-2019/20. Мехико. Обзор. **9.30, 10.15** Снукер. Welsh Open-2020. 1/2 финала. Мёрфи – Янь Бинтао. **12.00** Теннис. Выставочный турнир. Берлин. 1/4 финала. **13.00, 15.00, 17.00, 19.00** Теннис. Выставочный турнир. Берлин. 1/2 финала. **21.00** Велоспорт. «Тур де Франс»-2019. 18-й этап. **22.30** Велоспорт. «Тур де Франс»-2019. 19-й этап.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Школа внедорожного вождения. **6.15, 9.05, 12.05, 14.30, 18.10, 22.45, 0.40, 3.10** Итоговые новости. **6.30, 7.10, 7.45, 17.45, 18.45** Гаражная команда. **6.55, 7.30, 18.30, 19.10** Под микроскопом. **8.15, 9.20** Резьба по стали. **8.45, 9.50** Тест с дядей Ваней. **10.10** Мото тест-драйв. **10.30** Проверка на дороге. **10.45, 14.00, 0.55, 1.25** Испытание на прочность. **11.15, 19.30, 23.00, 3.25** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **11.50, 19.55, 23.30, 3.50** Авто: вторые руки. **12.25, 20.15, 23.50, 4.05** Трасса А2. **13.15** Вторичка. **13.30, 1.50** Тест на «Драйве». **14.50, 21.05, 4.50** 9 злобных водителей. **15.25, 21.40** Наезд! **15.35** Вечер с Пикуленко. **16.20, 22.30** Все включено. **16.40, 2.15, 2.45** Комплектация. **17.10** Сити тестер. **21.50, 5.20** Байки про байки.

### EXPLORE

**6.00, 6.55, 7.45, 8.30, 9.20, 10.10, 19.40** Приключения на рыбалке. **10.55, 11.45** Адские грузовики. **12.30, 13.20, 2.15, 3.05, 3.50, 4.40** Австралийские охотники на лобстеров. **14.05, 14.55** Австралийские золотоискатели. **15.40, 18.55** Поисковая команда в Австралии. **16.25, 20.30** Речные чудовища. **17.15** Масштабные инженерные ошибки. **18.05, 18.30** Демонтаж: Новая Зеландия. **21.20** Чудовищный карп. **22.10** Большое рыболовное состязание. **23.00** Большой улов. **23.50, 0.15** Рыбалка со звездами. **0.40, 1.05, 1.30, 1.50** Охота на оленей. **5.25** Виртуозы резьбы по дереву.

### HISTORY

**6.10** Невероятные изобретения. **6.35, 7.20, 8.05, 23.35, 0.20, 3.05, 3.50** Запретная история. **8.55, 9.40, 10.25, 4.35, 5.20** Музейные тайны. **11.10, 11.55, 12.45, 13.35, 14.25** Загадки Египта. **15.15, 15.45, 16.20, 16.50, 17.20, 17.50** Даты, вошедшие в историю. **18.20, 19.10** Великая миграция. **20.00** Хит-парад военной техники. **21.00** Спецназ древнего мира. **21.55** Мифические существа. **22.45** Мифы и чудовища. **1.05, 2.05** История христианства.

### NATURE

**6.00, 4.20** Уличный ветеринар. **6.30, 7.15, 8.05, 8.50, 9.35, 10.20, 3.35** Ветеринар из Йоркшира. **11.10, 11.35, 12.00, 12.25, 12.50** Пол О'Грэди: из любви к собакам. **13.15, 14.10** Выживание в дикой природе. **15.00** В поисках русского тигра. **15.55, 20.15** Дикая Латинская Америка. **16.50, 17.45** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **18.35** Дикая Центральная Америка с Найджелом Марвеном. **19.30, 23.30** Невероятные встречи с животными. **21.10** Рассказы о бурях. **21.55** Суровая Австралия. **22.45, 1.55, 4.50** Мутации погоды. **0.20** Жуткие, настоящие и странные. **1.10** Хищные питомцы. **2.45, 3.10** Природа в кадре.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Зона строительства. **6.25** Золото Юкона. **7.15** Авто-SOS. **8.00, 8.45, 9.30** Дикий тунец. **10.15, 10.35, 11.00, 11.25, 5.35** Научные глупости. **11.45** Свидетели катастроф. **12.30** Экспедиция на Эверест. **13.20** Потерявшиеся на Эвересте. **14.20, 15.05** Экстремальное путешествие: Вторая мировая война. **15.50** Европа с высоты птичьего полета. **16.40** Панорама 360 градусов. **17.25** Генуя: Хронология катастрофы. **18.10** Настольная книга диктатора. **19.00, 22.00** Вторая мировая война: Подводный ад. **19.45, 22.45** Последние тайны Третьего рейха. **20.30, 21.15, 23.35, 0.15** Апокалипсис: восхождение Гитлера. **1.05, 1.50** Граница. **2.35, 3.25** Паранормальное. **4.10** Эвакуация Земли. **4.55** Осушить океан.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 7.00, 7.30, 9.05, 10.10, 11.15, 12.15, 13.20, 14.20, 15.25, 16.30, 17.30, 18.35, 19.35, 20.40, 21.40, 22.45, 23.50, 0.55, 1.55, 2.55, 4.00, 5.00** Рыбный день. **6.30, 8.35, 9.35, 10.40, 11.45, 12.45, 13.50, 14.50, 15.55, 16.55, 18.00, 19.05, 20.05, 21.10, 22.15, 23.15, 0.20, 1.25, 2.25, 3.30, 4.30, 5.30** Сомы Европы. **8.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 18.05, 22.00, 2.10** Домашняя экспертиза. **6.30, 10.35, 14.45, 18.35, 22.30, 2.40** Дачных дел мастер. **7.00, 15.15, 19.05, 23.05, 3.10** Старые дачи. **7.30, 11.35, 15.45, 19.35, 23.35, 3.55** Школа дизайна. **8.00, 12.05, 16.15, 20.10, 0.05, 4.20** Пучки-пучки. **8.15, 12.25, 16.30, 20.25, 0.25, 4.35** Сладкая жизнь. **8.35, 16.50, 20.40, 0.40, 4.50** Керамика. **8.50, 12.55, 17.05, 21.00, 0.55, 5.05** У мангала. **9.20, 3.40** Травовед. **9.35, 17.35, 21.30, 1.25, 5.35** ТОП-10. **10.05** Профотбор. **11.05** Старинные русские усадьбы. **12.40** Сам себе дизайнер. **13.25** История одной культуры. **13.55** Варенье. **14.15** Стройплощадка. **1.55** С пылу с жару.

## Беларусь 1

**6.55, 1.20** Х/ф **«БАБОЧКИ И ПТИЦЫ».**

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.50** Истории спасения.

**10.35** Зона Х. Итоги недели.

**11.10** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ОТПУСК ЛЕТОМ».**

**14.25** Маршрут построен.

**15.15** Твой город.

**15.30** Один день. Семейный детский дом.

**16.05** Судьба гигантов.

**16.40, 19.10** Х/ф **«МОЯ ЛЮБИМАЯ СВЕКРОВЬ. МОСКОВСКИЕ КАНИКУЛЫ».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** «Славянский базар в Витебске». Видеодневник.

**22.20** XXIX Международный фестиваль искусств «Славянский базар в Витебске». Торжественное закрытие.

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.40** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**

**9.05, 19.35** Телебарометр.

**9.10** «Суперджена». Реалити-шоу.

**10.10** «До свидания». Реалити-шоу.

**10.55** «Четыре свадьбы». Реалити-шоу.

**12.20** «Верю не верю». Трэвел-шоу.

**13.15** Х/ф **«ШЕСТЬ ДНЕЙ, СЕМЬ НОЧЕЙ «.**

**14.55** «Папа попал». Реалити-шоу.

**16.30** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.20** Галактическая сага «Звездные войны: Эпизод VII — Пробуждение силы».

**20.05** «Муж напрокат». Реалити-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«МАЛАВИТА».**

**23.10** «Орел и Решка. Спецвыпуск». Трэвел-шоу.

**0.05** Кто я?

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 13.35, 20.20** Навіны культуры.

**8.20** Гэты дзень.

**8.25** «Мільён у шлюбным кошыку». Мастацкі фільм СТ.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.30** «Беларуская кухня». Вяргенікі.

**11.00** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Культурны рэпартаж».

**12.05** «Следапыт». Мастацкі фільм.

**14.00** XVIII Міжнародны дзіцячы музычны конкурс «Віцебск-2020». Гала-канцэрт і цырымонія ўзнагароджання. Прамая трансляцыя.

**16.00** «Майстры і куміры». Тэлевядучая, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Алена Спірыдовіч.

**16.50** «Утаймавальніца тыграў». Мастацкі фільм.

**18.30** Тэлеверсія адкрыцця XXIX Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску».

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Беражыце жанчын». Мастацкі фільм СТ.

**23.30** «Арт-гісторыі». «Чырвоны. Код нацыі».

**23.55** «Доказы з мінулага». Дакументальны цыкл. Уладзімір Маякоўскі.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Премьера ОНТ: «Народный повар».

**10.45** Х/ф **«НА МОРЕ!».**

**12.40** Премьера. «На дачу!» с Ларисой Гузеевой.

**14.00** Т/с **«ТОНКИЙ ЛЁД».**

**16.20** ОНТ представляет: «Моя Беларусь».

**16.30** «Большие гонки».

**18.15** «Три аккорда».

**20.00** Контуры.

**21.20** «Dance Революция».

**23.05** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.25** «Dance Революция». Продолжение.

## СТВ

**6.35, 0.00** «Пища богов».

**8.20, 11.00** Документальный проект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**12.25, 13.40, 16.40** Т/с **«ПОЗЫВНОЙ «СТАЯ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**20.50** Документальный спецпроект.

**22.25** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ «ТУШЕНКА».**

**6.00** «Беларусь сегодня».

**6.30** «Еще дешевле».

**7.00** Мультфильмы.

**7.10** Х/ф **«ЗАЙЧИК».**

**8.50** «Наше кино. История большой любви».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15, 19.30** Т/с **«25-Й ЧАС».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**1.00** Международный фестиваль искусств «Славянский базар». Дневник.

**1.05** XXIX Международный конкурс исполнителей эстрадной песни «Витебск-2020». День первый: «Славянский хит».

**2.35** Х/ф **«МАНИЯ ВЕЛИЧИЯ».**

**4.00** Т/с **«ДОМ ФАРФОРА».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».

**6.15** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.50** «Истории ремонта».

**7.25** «Дача».

**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.55** Беларусы.

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.25** «Первая передача».

**10.55** «Чудо техники».

**11.45** «Дачный ответ».

**12.45** «НашПотребНадзор».

**13.45** Истории спасения.

**14.20** Х/ф **«МОРСКИЕ ДЬЯВОЛЫ».**

**16.20** «Следствие вели…».

**19.45** Ты не поверишь!

**20.40** «Звезды сошлись».

**22.05** «Основано на реальных событиях».

## Беларусь РТР

**7.00** Х/ф **«ТЫ ТОЛЬКО БУДЬ СО МНОЮ РЯДОМ».**

**10.25, 11.30** Х/ф **«ВО САДУ ЛИ, В ОГОРОДЕ».**

**11.00, 20.00** ВЕСТИ.

**14.25** Х/ф **«МАТЬ И МАЧЕХА».**

**18.00, 21.45** Х/ф **«КТО Я».**

**21.15** «В людях».

**22.50** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 18.20** Девушка из Джерси. **8.15** Дорогой Джон. **10.20** Дракула. **12.30** День сурка. **14.20** Эмма. **16.30** Чужой билет. **22.10** Шутки в сторону 2: Миссия в Майами. **0.10** Невероятные приключения Факира. **1.50** Праздничный переполох. **4.00** Византия.

### TV1000 ACTION

**7.25** Пророк. **9.15** Ультрафиолет. **10.50** Время ведьм. **12.20** Терминатор 2: Судный день. **15.05** Терминатор 3: Восстание машин. **16.55** Терминатор: Да придёт спаситель. **18.55** Легенда. **21.10** Экспат. **22.55** Французский транзит. **1.15** Титан. **3.10** Атлантида. **5.10** Поле битвы.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.25** Каникулы президента. **9.15, 10.05, 11.00, 11.55, 12.50** Лондонград. Знай наших. **13.45** О чём говорят мужчины. **15.25** О чём ещё говорят мужчины. **17.10** На Дерибасовской хорошая погода, или на Брайтон-Бич опять идут дожди. **18.50** Граница. Таёжный роман. **21.05** Мне не больно. **23.10** Троица. **0.50** После тебя. **3.15** Край. **5.30** Царевна-лягушка.

### ТВ3

**6.00, 9.45** Мультфильмы. **9.00** «Рисуем сказки». **9.15** «Новый день». **10.30** «Погоня за вкусом». **11.30** «Далеко и еще дальше». **12.30** Х/ф **«ДОМ У ОЗЕРА». 14.30** Х/ф **«МЕНЯЮЩИЕ РЕАЛЬНОСТЬ». 16.45** Х/ф **«ПЯТОЕ ИЗМЕРЕНИЕ». 19.00** Х/ф **«ПРЕВОСХОДСТВО». 21.15** Х/ф **«ОБЛАСТИ ТЬМЫ». 23.30** Х/ф **«ЛОВУШКА ВРЕМЕНИ». 1.15** Х/ф **«КОМАТОЗНИКИ». 3.15, 3.30, 4.00, 4.30, 4.45, 5.15, 5.45** «Странные явления».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 20.00** Т/с **«У КАЖДОГО СВОЯ ВОЙНА». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ДЕРЕВЕНСКАЯ КОМЕДИЯ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«РАЗВОД И ДЕВИЧЬЯ ФАМИЛИЯ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ОПЕРА. ХРОНИКИ УБОЙНОГО ОТДЕЛА. НОВАЯ ВЕРСИЯ». 4.00** Т/с **«ГРОМОВЫ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.45** Х/ф **«БОЛЬШОЙ СОЛДАТ». 3.05** Х/ф **«КАК ВЫЙТИ ЗАМУЖ ЗА МИЛЛИАРДЕРА». 4.50** Х/ф **«ЗАКОНУ ТУТ НЕ МЕСТО». 6.40** Х/ф **«ЛЮБОВЬ БЕЗ ПЕРЕСАДОК». 8.30** Х/ф **«БОЛЬШАЯ СВАДЬБА». 10.10** Х/ф **«ГАМБИТ». 11.50** Х/ф **«СИНЬОР РОБИНЗОН». 14.00** Х/ф **«РОЖДЕСТВО С НЕУДАЧНИКАМИ». 15.50** Х/ф **«КАК УКРАСТЬ БРИЛЛИАНТ». 17.40** Х/ф **«БОЛЬШОЙ КУШ». 19.35** Х/ф **«ЧЕТЫРЕ КОМНАТЫ». 21.30** Х/ф **«СУТЕНЕР». 23.15** Х/ф **«ТАЧКА НА МИЛЛИОН».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00, 1.00, 2.05, 3.05, 4.00, 5.05, 6.00** Т/с **«МАММОН». 7.10, 8.05, 9.05, 10.00** Т/с **«БЕГИ!». 11.00, 12.00, 13.05, 14.05, 15.05, 16.05, 17.05, 18.05, 19.05, 20.05, 21.05, 22.10** Т/с **«ИСТРЕБИТЕЛИ: ПОСЛЕДНИЙ БОЙ». 23.10** Т/с **«ПАПА НАПРОКАТ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **9.25** Шоу «ГАЛИЛЕО». **10.00** Юмористическое шоу «СЛАВА БОГУ, ТЫ ПРИШЁЛ!». **11.00** Скетч-шоу «СЕЗОНЫ ЛЮБВИ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.45** Х/ф **«РЕАЛЬНАЯ БЕЛКА 2». 14.20** Х/ф **«ИНФЕРНО». 16.40** Х/ф **«ПРАВИЛА СЪЕМА: МЕТОД ХИТЧА». 18.50** Фэнтези «ОХОТНИКИ ЗА ПРИВИДЕНИЯМИ». **21.00, 1.20** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **22.25** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **23.25** Travel-шоу «СЕЛАПОЛЕТЕЛА». **0.05** Т/с **«ГАЛЫГИН.RU». 2.35** «ПРОСТО КУХНЯ». **3.25** Make-over шоу «РОГОВ В ГОРОДЕ». **4.15** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Плавание. Кубок и первенство Беларуси. Финальные заплывы. **7.55** Футбол. Чемпионат Англии. Норвич — Бернли. **9.50** Пляжный футбол. Чемпионат Беларуси. Плей-офф. **16.00, 17.55** Спорт-микс. **18.05** Пит-стоп. **18.35** Спорт-центр. **20.35** Футбол. Беларусбанк — чемпионат Беларуси. 18-й тур. Торпедо-БелАЗ (Жодино) — Динамо-Минск. В перерыве Спорт-центр. **22.40** Футбол. Беларусбанк — чемпионат Беларуси. Обзор тура. **23.25** Футбол. Лига чемпионов УЕФА.

### EUROSPORT

**0.00** Автогонки. WTCR. Гейминг. Макао. **1.00** Покер. WPT Alpha8. **2.00** Снукер. Welsh Open-2020. Финал. Мёрфи — К. Уилсон. **4.00, 9.30** Снукер. The Players Championship-2020. Финал. **6.00** Автогонки. WTCR-2019. Сепанг. Первая гонка. **6.30** Автогонки. WTCR-2019. Сепанг. Вторая гонка. **7.15** Автогонки. WTCR-2019. Сепанг. Третья гонка. **8.00** Автогонки. Формула Е-2019/20. Марракеш. **8.30** Автогонки. Формула Е-2019/20. Марракеш. Обзор. **11.30** Теннис. Выставочный турнир. Берлин. **12.30** Автогонки. Суперкубок Porsche. Шпильберг. **13.15** Автогонки. Суперкубок Porsche. Будапешт. Прямая трансляция. **14.15, 15.00** Теннис. Выставочный турнир. Берлин. Матч за третье место. **17.00, 19.00** Теннис. Выставочный турнир. Берлин. Финал. **21.00** Велоспорт. «Тур де Франс»-2019. 20-й этап. **22.30** Велоспорт. «Тур де Франс»-2019. 21-й этап. **23.00** Велоспорт. «Тур де Франс»-2019. Обзор.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Школа внедорожного вождения. **6.15, 6.55, 17.20, 18.05** Гаражная команда. **6.40, 7.20, 7.50, 17.50, 18.35** Под микроскопом. **7.35, 10.15, 12.55, 16.00, 18.50, 23.20, 1.30, 3.50** Итоговые новости. **8.05** Резьба по стали. **8.35** Тест с дядей Ваней. **8.55, 9.45** Мотогараж. **9.25** Мото тест-драйв. **10.30** Проверка на дороге. **10.45, 14.00, 0.30, 1.00** Испытание на прочность. **11.20, 19.05, 22.35, 3.10** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **11.50, 19.40, 23.05, 3.35** Авто: вторые руки. **12.05, 19.55, 23.40, 4.05** Трасса А2. **13.15** Вторичка. **13.30, 1.45** Тест на «Драйве». **14.30, 20.55, 4.50** 9 злобных водителей. **15.05** Байки про байки. **15.40, 22.15** Все включено. **16.20, 16.50, 2.10** Комплектация. **20.45** Обновление. **21.30, 5.20** Вечер с Пикуленко. **2.40** Сити тестер.

### EXPLORE

**6.00, 7.00, 7.50, 8.45** Речные чудовища. **9.35, 10.00** Демонтаж: Новая Зеландия. **10.25** Масштабные инженерные ошибки. **11.15** Поисковая команда в Австралии. **12.00, 12.45, 13.35, 14.20, 15.10, 15.55, 16.45, 17.30, 18.20, 19.05, 19.50, 20.40, 21.25, 22.15, 23.00, 23.45, 0.35** Австралийские золотоискатели. **1.20, 2.10, 3.00** Джимми Догерти: побег в глушь. **3.50, 4.40** Тренировка по древним традициям. **5.35** Виртуозы резьбы по дереву.

### HISTORY

**6.00, 23.50, 0.35, 3.10, 3.55** Запретная история. **6.45, 7.30, 8.15, 4.45** Музейные тайны. **9.00, 9.45, 12.10, 13.00** Тайны музеев. **10.30, 11.20, 2.25** Мифические существа. **13.45, 14.40, 15.30, 16.20, 17.10** Загадки Египта. **18.05** Мегаполис: секреты древнего мира. **19.05** Взлет и падение: поворотные моменты Второй мировой войны. **20.00** Древние небеса. **21.00** Монархи: забытые письма. **22.05** Королевская семья, британская аристократия и нацисты. **23.05** Карты убийства. **1.25** История христианства. **5.30** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.15** Дикая Шри-Ланка: царство леопардов. **7.05** В поисках русского тигра. **8.00, 8.50** 24 часа на Земле. **9.45, 10.35, 11.30, 20.25** Тайная жизнь слонов. **12.25, 13.15, 14.10** Великая рифтовая долина — дикое сердце Африки. **15.00, 18.40** Дикая Латинская Америка. **15.55, 16.50, 17.45** Дикая Бразилия. **19.35** Загадочная планета. **21.15** Земля больших кошек. **22.10, 22.50** Война за животных. **23.35** Невероятные встречи с животными. **0.25, 0.50** Природа в кадре. **1.15** Жуткие, настоящие и странные. **2.05** Хищные питомцы. **2.55, 4.55** Мутации погоды. **3.40** Ветеринар из Йоркшира. **4.25** Уличный ветеринар.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 6.25, 11.30** Зона строительства. **6.50** Золото Юкона. **7.35, 8.20, 0.50, 1.35** Авто-SOS. **9.05, 9.50, 10.40** Дикий тунец. **11.55, 3.55** Суперсооружения: чудеса инженерии. **12.40, 13.25, 14.10** История Эмиратов. **14.55, 15.40, 16.25, 17.15** Расследование авиакатастроф. **18.00, 18.20, 0.05, 0.25** Горячие границы: Латинская Америка. **18.45** Служба безопасности аэропорта: Колумбия. **21.00, 21.45** Поймать контрабандиста. **22.35** Служба безопасности аэропорта: Перу. **2.20, 3.05** Космос: Пространство и время. **4.45** Осушить океан. **5.35** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.05, 22.05, 2.00** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.25, 18.35, 22.35, 2.30** Охота в Новом Свете. **6.55, 10.50, 14.50, 19.00, 23.00, 3.10** Мир рыболова. **7.25, 15.35, 23.30** Вкусные рецепты охотника. **7.55, 11.50, 16.05, 20.00, 0.00, 4.05** Андрей Старков и его команда. **8.25, 12.20, 16.35, 20.30, 0.30, 4.35** Рыбалка на малых реках Удмуртии. **8.55** Безграничная рыбалка. **9.25, 1.30, 5.35** Рыбалка в России. **11.20, 19.30, 3.40** Вкусные рецепты рыболова. **12.50, 17.05** Рыбалка без границ. **13.25, 17.40, 21.35, 1.00, 5.05** Россия заповедная. **15.15** Охотничья и рыболовная кухня. **21.00** На рыбалку с охотой. **2.55** Две на одного. Оружие.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.05, 14.15, 18.05, 22.00, 2.10** Домашняя экспертиза. **6.30, 10.35, 14.45, 18.35, 22.30, 2.40** Дачных дел мастер. **7.00, 11.05, 15.15, 19.05, 23.05, 3.10** Старые дачи. **7.30, 11.35, 15.45, 19.35, 23.35, 3.55** Школа дизайна. **8.00, 12.05, 16.15, 20.10, 0.05, 4.20** Лучки-пучки. **8.15, 12.25, 16.30, 20.25, 0.25, 4.35** Сладкая жизнь. **8.35, 12.40, 16.50, 20.40, 0.40, 4.50** Керамика. **8.50, 12.55, 17.05, 21.00, 0.55, 5.05** У мангала. **9.20, 3.40** Травовед. **9.35, 13.25, 17.35, 21.30, 1.25, 5.35** ТОП-10. **13.55** Варенье. **1.55** С пылу с жару.

# Беларускі гісторык знайшоў вайсковую торбу салдата Арміі Андэрса

## Гаспадар торбы – ураджэнец і жыхар Валожына

ВАЛОЖЫН

**Да беларускага гісторыка і публіцыста Ігара Мельнікава трапіў вайсковы мех жаўнера Другой сусветнай вайны. Ён належаў жыхару Валожына Раману Зянько.**

– У маёй калекцыі з'явіўся ўнікальны артэфакт – вайсковы мех жаўнера Другой сусветнай вайны. Такія выдаваліся і жаўнерам Войска Польскага на Захадзе, у тым ліку і беларускім андэрсаўцам. Побач з надпісамі на англійскай і на польскай мовах ёсць і адрас па-руску – Маладзечанская вобласць. Напісана і тое, што пасля вайны жаўнер вярнуўся ў Валожын, – расказвае спадар Ігар.

### З арміяй Андэрса быў у Іраку, Палесціне, Егіпце

Торбу бацькі ў старой хаце знайшла яго дачка. І вырашыла перадаць яе гісторыку. У кнізе «Забытыя героі» Ігара Мельнікава ёсць расповед пра гаспадара гэтай вайсковай торбы – ураджэнца і жыхара Валожына, Рамана Зянько. Прапануем яго чытачам:

«Жаўнер Другога польскага корпуса нарадзіўся ў 1902 годзе ў Валожыне. У 1923 годзе Рамана Зянько прызвалі ў восьмы пяхотны полк у Любліне. Пасля дэмабілізацыі займаўся звычайнай сельскагаспадарчай працай. Падчас усеагульнай мабілізацыі ў канцы жніўня 1939 года беларус быў прызваны ў адзін з рэзервовых палкоў пяхоты Польскага войска і ўдзельнічаў у Вераснёвай кампаніі. Падчас адступлення 18 верасня 1939 года Раман Мацвеевіч трапіў у савецкі палон і хутка пасля гэтага быў накіраваны на прымусовыя працы ў Комі АССР. Выратаваў беларуса напад Германіі на Савецкі Саюз у чэрвені 1941 года. Разам з іншымі польскімі грамадзянамі яго накіравалі ў распараджэнне Польскага войска на тэрыторыі СССР.

У 1942-1944 годзе Зянько праходзіў службу ў Трэцяй карпацкай стралковай дывізіі, у дзявятым стралковым батальёне. Разам з гэтым злучэннем пабываў у Іраку, Палесціне, Егіпце. Пазней ураджэнца Валожына перавялі ў трэцюю транспартную роту ў складзе пятага польскага эвакуацыйнага шпіталя. Менавіта з гэтым злучэннем Зянько ўдзельнічаў у вызваленні Італіі ад нацыстаў. Прымаў удзел у бітве пад Монтэ-Касіна, прарыве лініі Густава (...) За ўдзел у Італьянскай кампаніі андэрсавец быў узнагароджаны польскім крыжам за заслугі з мячамі, вайсковым медалём, крыжам Монтэ-Касіна, а таксама брытанскімі ўзнагародамі: Зоркай 1939-1945 гадоў, Італьянскай зоркай, абаронцым і вайсковым медалём.

У 1947 годзе беларус дэмабілізаваўся і вярнуўся на радзіму. У снежні таго ж года атрымаў савецкі ваенны білет, дзе было пазначана: «Ад 1941 да 1947 года служыў у Арміі Андэрса». Удзельнікам вайны беларуса да канца жыцця так і не прызналі.

### «Адпачываю тут я добра – у кіно хадзіў»

Цікавым фактам з'яўляецца тое, што ў снежні 1947 года савецкія спецыяльныя органы прымусілі Рамана Мацвеевіча напісаць ліст да аднаго са сваіх саслужыўцаў, што жыў у Лондане. Вось што было ў тым пасланні «Прывітанне, Станіслаў. У першых словах паведамляю табе, што я жыву ў Валожыне і жывецца мне добра. На сённяшні дзень я ні ў чым не маю патрэбы і ў мяне ўсяго хапае. Многія нашы таварышы вярнуліся. Я з імі размаўляў, і ніхто не шкадуе, што вярнуўся. Памятаеш, што нам там у Англіі казалі, што калі вернемся дадому, то будзем жыць дрэнна. Гэта ўсё няпраўда. Кожны, хто вярнуўся, уладкаваўся на працу. У Англіі нам казалі, што таго, хто прыедзе дадому, будуць вывозіць на Поўнач, – гэта ўсё бабуліны казкі, таму што кожны з нас жыве на сваёй радзіме і можа ўладкавацца на любую працу... Адпачываю тут я добра – у кіно хадзіў. Як і да 1939 года, маю карову і каня. Стась, калі чым будзеш цікавіцца, то пішы мне, і я заўсёды дам табе адказ. Спадзяюся на хуткую сустрэчу на радзіме. Ведаеш, лепш быць пры сваіх людзях, чым у мокрай Англіі».

Прыцягвае ўвагу тое, што ліст быў напісаны па-руску. А для большасці андэрсаўцаў гэта была чужая мова. Яны карысталіся беларускай ці польскай. Хутчэй за ўсё, гэты ліст, які па сёння захоўваецца ў Нацыянальным архіве, быў напісаны пад дыктоўку адказных таварышаў...».

Па словах Ігара Мельнікава, вясной 1951 года беларускіх андэрсаўцаў пачалі дэпартаваць у Сібір. Аднак сям'і Зянько пашанцавала: іх не вывезлі таму, што сын Рамана Мацвеевіча на той час служыў у савецкім войску.

Падрыхтавала **Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота з архіва Ігара МЕЛЬНІКАВА.

Раман Зянько – жаўнер Арміі Андэрса.




Фота Ігара МЕЛЬНІКАВА.

Знойдзеная торба цяпер захоўваецца ў калекцыі Ігара Мельнікава.

● КАЛЯНДАР

10 ЛІПЕНЯ

**1994. Аляксандр Лукашэнка** абраны прэзідэнтам Беларусі.

11 ЛІПЕНЯ

**1885.** У вёсцы Нецькі Мядзельскага раёна нарадзіўся **Францішак Рамейка**, беларускі каталіцкі святар-адраджэнец, грамадскі дзеяч. Пераследаваўся за сваю беларускую дзейнасць. Застрэліўся ў 1931 годзе ў Вільні.

12 ЛІПЕНЯ

**1920.** Паводле дагавора РСФСР-Літва РСФСР прызнала Літоўскую рэспубліку і яе правы на тэрыторыю з гарадамі Гродна, Шчучын, Ашмяны, Смаргонь, Браслаў, Ліда, Паставы. У ацэнках сучаснай беларускай гістарыяграфіі дагавор – ваенна-палітычны акт савецкага кіраўніцтва, якое не лічылася з інтарэсамі беларускага народа.

13 ЛІПЕНЯ

**1508.** Бітва пад Оршай. Бітва войска Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага супраць войска Маскоўскага княства. У выніку маскоўскія войскі былі адкінутыя пад Бранск.

14 ЛІПЕНЯ

**1995.** Чачэнскія баевікі на чале з **Шамілем Басаевым** захапілі больш за 1600 закладнікаў у бальніцы горада Будзёнаўска.

15 ЛІПЕНЯ

**1876.** Нарадзілася **Алаіза Пашкевіч (Цётка)**, беларуская паэтэса, грамадскі дзеяч, педагог, публіцыст. Памерла ў 1916 годзе. У Маладзечне імя Алаізы Пашкевіч носіць вуліца.



**1938.** На радзіме ў Воўчыне каля Камянца перапахавалі рэшткі апошняга караля польскага і вялікага князя літоўскага **Станіслава Аўгуста Панятоўскага**, перавезеныя з Ленінграда. У 1995 годзе перададзены Варшаўскай катэдры.

16 ЛІПЕНЯ

**1941.** Каля Віцебска ў нямецкі палон трапіў **Якаў Джугашвілі**, сын Іосіфа Сталіна і яго першай жонкі Кацярыны Сванідзэ.

**1990.** Памёр **Мікалай Арэхва**, дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, гісторык. Нарадзіўся ў 1902 годзе ў Барунах.

Падрыхтаваў **Мікола ГАЙДУК.**

# Што звязвае беларускі горад Маладзечна і нямецкі горад Эслінген

МАЛАДЗЕЧНА

**Партнёрскія сувязі паміж Маладзечнам і Эслінгенам бяруць афіцыйны пачатак ад 1988 года. Першапачаткова яны ўзніклі і падтрымліваліся дзякуючы Генадзю Карпенку і Віктару Ганчару.**

### Эслінген – пачатак эміграцыі сям'і Карпенкаў. Ужо без Генадзя

Вось як прыгадвае пачатак гэтых сувязяў і горад Эслінген удава былога дырэктара Маладзечанскага завода парашковай металургіі і старшыні Маладзечанскага райвыканкама Генадзя Карпенкі **Людміла:**

– Менавіта тады, у далёкія 1980-я, наладжваліся партнёрскія сувязі з Германіяй, з горадам Эслінгенам. Эслінген – інтэрнацыянальны горад, адкрыты ўсяму свету. Цяпер у яго 11 гарадоў-партнёраў. Маладзечна стала восьмым у гэтым спісе.



Ратуша – адна са славутасцяў Эслінгена.

Фота з Вікіпедыі.

> **Гэта прыгожы старадаўні горад, размешчаны на поўдні Германіі, у гарыстай мясцовасці, уздоўж ракі Некар, і патанае ў зяляніне, вінаградніках і колерах.**

Тут вялікая колькасць цэркваў розных веравызнанняў, шмат замежжацаў, але беларусаў мала. Большасць жыхароў гэтай мясцовасці жывуць спакойным размераным жыццём. Іх не цікавіць палітыка. І такую краіну, як Беларусь, мала хто ведае. Гэты горад – пачатак нашай эміграцыі.

### Навучальныя ўстановы гарадоў сябруюць не адно дзесяцігоддзе

Адносіны Маладзечна і Эслінгена ў 1988 годзе замацавалі дагаворам аб сяброўстве і партнёрстве. Гэту падзею прысвяцілі 600-годдзю Маладзечна. Дагавор паспрыяў ажыўленню культурных сувязяў дзвюх краін і народаў. Пачаўся абмен дэлегацыямі.

Ад пачатку 1990-х і па сённяшні дзень партнёрскія сувязі падтрымліваюць Маладзечанскі дзяржаўны каледж і школа імя Кэтэ Кольвіц у Эслінгене. З нямецкага боку сувязі наладжвалі **Зігрыд Фрытцман**, **Берндт Шэперман**, **Томас Фішле, Хельга Краўтэр**, **Эрнст Бёлё**. З беларускага – **Валеры Кузняцоў**, **Генрых Богдан**, **Анатоль Войніч**. За гады партнёрства ў абмене дэлегацыямі паўдзельнічала больш за восемсот чалавек.

> **Ад 1988 года маладзечанская гімназія №10 супрацоўнічае з гімназіяй Шэльцтар у Эслінгене.**

Ля вытокаў гэтага супрацоўніцтва стаялі **Барыс Вайцяхоўскі** і **Рудольф Лашэт**. За мінулыя гады ў вучнёўскіх абменах паўдзельнічала каля пяцісот чалавек.

Усяго было больш за 20 абменаў. Падчас іх гімназісты з абодвух бакоў вывучалі мову ў асяродку яе носьбітаў, даведваліся пра гісторыю гарадоў, наведвалі ўрокі разам са сваімі замежнымі аднагодкамі, удзельнічалі ў адмысловых гульнях і конкурсах.

### Крыху пра Эслінген

Эслінген размешчаны ў федэральнай зямлі Бадэн-Вюртэмберг. Афіцыйная назва – Эслінген-на-Некары. Горад быў узведзены ў восьмым стагоддзі. Сёння з розных куткоў Германіі і Еўропы сюды прыязджаюць турысты, каб акунуцца ў атмасферу сярэднявечнага чараўніцтва і рамантыкі. Насельніцтва горада – каля 90 тысяч чалавек. Тут развітае машына- і аўтамабілебудаванне, электратэхнічная і керамічная вытворчасці, кнігавыдавецтва.

Горад вядомы сваімі фахверкавымі дамамі. Фахверк – каркасная канструкцыя, тыповая для сялянскай архітэктуры Цэнтральнай і Паўночнай Еўропы. Другая назва канструкцыі – пруская сцяна. Гэта каркас, утвораны сістэмай вертыкальных і гарызантальных брусоў і раскосаў з запаўненнем прамежкаў каменем, цэглай, глінай. Найстарэйшы ў Германіі такі дом пабудаваны ў 13 стагоддзі, захаваўся ў Эслінгене да сёння. Эслінген займае першае месца сярод гарадоў Германіі па колькасці захаваных сярэднявечных вуліц і дамоў.

> **Розныя крыніцы паведамляюць, што ў горадзе каля 860 старадаўніх будынкаў. І, вядома, кожны з іх мае сваю гісторыю.**

Яшчэ візітоўкі горада – сярэднявечныя кірмашы і карнавальныя шэсці. У Эслінгене маштабна адзначаюць святы цыбулі, клубніц і віна. Паколькі ў горадзе шмат вінаграднікаў, віно тут не менш папулярнае, чым піва.

### Як у 2009-м улады Маладзечна не пусцілі ў горад дэлегацыю з Эслінгена

Пра гэты выпадак у красавіку 2009 года пісала газета «Народная воля». 11 год таму, 7 красавіка, у Мінску ладзілі мерапрыемствы, прысвечаныя дзесяцігоддзю з дня смерці Генадзя Карпенкі. Спецыяльна для ўдзелу ў гэтых мерапрыемствах у Беларусь прыбыла група прадстаўнікоў горада-партнёра Маладзечна, нямецкага Эслінгена. Бургамістр **Маркус Рааб**, які ў кіраўніцтве горада курыруе сацыяльны блок, паведаміў у інтэрв'ю «Народнай Волі», як прынялі дэлегацыю з Германіі ўлады Маладзечна:

– Мы прыехалі на мерапрыемствы, прысвечаныя памяці Генадзя Карпенкі. І мелі намер выкарыстаць магчымасць і правесці сустрэчу ў мэрыі Маладзечна. Мы накіравалі адмысловы ліст гарадскім уладам Маладзечна і атрымалі адказ, што нас з радасцю прымуць. Аднак праз некаторы час прыйшоў новы ліст, і адказ ужо быў зусім іншы: па тэхнічных прычынах з прадстаўнікоў улады Маладзечна з намі сустрэцца ніхто не можа, – сказаў Маркус Рааб.

Прычыны, па якіх сустрэча адбыцца нібыта не можа, у гэтым лісце не тлумачыліся.

> **«Па тэхнічных прычынах. І ніякіх падрабязнасцяў», – дадаў нямецкі палітык.**

А вось у 2018 годзе, калі партнёрскім сувязям гарадоў споўнілася 20 год, у Маладзечна прыязджаў обер-бургамістр Эслінгена **Юрген Цыгер**. У Маладзечанскім райвыканкаме дэлегацыю прымаў тагачасны старшыня райвыканкама **Аляксандр Яхнавец**.

Падрыхтавала **Аксана ЯРАШОНАК.**



Літоўская дэлегацыя падчас наведвання Крэва.

# Прадстаўнікі амбасады Літвы праспявалі свой гімн ля крэўскіх муроў

**6 ліпеня амбасада Літвы ў поўным складзе наведала Крэва. Паездку зладзілі 6 ліпеня – у дзень, калі ў 1253 годзе вялікі князь літоўскі Міндоўг быў каранаваны ў сваёй рэзідэнцыі ў Наваградку, які тады быў сталіцай Вялікага Княства Літоўскага.**

СМАРГОНЬ

– Ад 2009 года, калі адзначалі тысячагоддзе Літвы, у амбасады з'явілася традыцыя: 6 ліпеня, у дзень каранацыі Міндоўга, літоўцы ва ўсім свеце ў 21:00 спяваюць гімн Літвы. 6 ліпеня ў Літве ў гэты час ішоў моцны дождж, але літоўцы ўсё роўна спявалі. А мы наведалі Крэва – месца, дзе быў забіты Кейстут, адкуль збег Вітаўт і дзе была падпісаная Крэўская унія. У Крэве, дарэчы, у гэты час было цудоўнае надвор'е. І мы праспявалі гімн тут, – падзялілася міністр-дарадца намеснік амбасадара Літвы ў Беларусі **Аста Андрыяўскене**.

Па яе словах, у амбасадзе вельмі рады, што ў Беларусі надаюць увагу агульнай беларуска-літоўскай спадчыне і што Крэўскі замак рэстаўрыруюць.

Высокіх гасцей у Крэве фатаграфаваў мясцовы жыхар фатограф **Сяргей Гапон**. Ён падзяліўся з карэспандэнтам сваімі назіраннямі ад сустрэчы:

– Пакуль мы шпацыравалі па крэўскіх вулачках, дэлегацыя ледзь не хорам віталася з кожным сустрэчным местачкоўцам. Для іх гэта нармальна – прывітацца з незнаёмым, усміхнуцца яму. А нашы пасля ад'езду толькі і пыталіся, што за людзі такія ветлівыя.

**Міндоўг** – першы вялікі князь (канец 1248 – 1253 і 1261 – 1263) Вялікага Княства Літоўскага, першы і апошні кароль літоўскі (1253 – 1261). Княжанне Міндоўга прыйшлося на пачатак утварэння новай цэнтралізаванай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага, якое першапачаткова ўключыла ў сябе ўсходнеславянскія і балцкія землі ў Панямонні, што цяпер уваходзяць у Рэспубліку Беларусь і Літоўскую Рэспубліку.

Гэты працэс адбываўся ў сярэдзіне 13 стагоддзя – у складаны час, калі ў выніку пагрозы з боку мангола-татарскага нашэсця скласліся цяжкія ўмовы для існавання славянскага і балцкага насельніцтва. Такія абставіны вымушалі Міндоўга шукаць шляхі для ўмацавання сваёй дзяржавы і неаднойчы змяняць саюзнікаў. У гісторыі Літоўскай Рэспублікі ВКЛ з'яўляецца княствам, з якога пачалася літоўская дзяржаўнасць, а Міндоўг – першым кіраўніком літоўскай дзяржавы.

У гісторыі Беларусі, на землях якой дзяржаўнасць пачалася з больш ранніх Полацкага і Тураўскага княстваў, Міндоўг выступае як першы кіраўнік ВКЛ – дзяржавы, якая ў далейшым ахапіла ўсю сучасную тэрыторыю Беларусі, Літвы і шэраг суседніх зямель.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У садку правялі тэматычны дзень «Лета цудоўнае – лета бяспечнае»

СМАРГОНЬ

**Лета – час, калі хочацца купацца, хадзіць у лес у ягады і грыбы, гуляць на вуліцы.**

А каб гульні былі ў радасць і не прычынілі шкоды здароўю дзіцяці – важна нагадваць дзецям аб правілах бяспекі.

У яслях-садку №15 Смаргоні правялі тэматычны дзень «Лета цудоўнае – лета бяспечнае». Мерапрыемствы зладзілі для таго, каб паспрыяць фарміраванню культуры бяспечных паводзін у выхаванцаў.

У рамках тэматычнага дня ў нашай установе правялі гутаркі «Што можна і што нельга?», «Тэлефоны службы выратавання», «Правілы паводзін каля ракі», «Сонца спякотнае, небяспечнае», «Пераходзім дарогу па правілах». Падчас гутарак выхаванцы замацавалі асноўныя правілы бяспечных паводзін летам, правілы бяспекі пры катанні на веласіпедзе, роліках. Прыгадалі, як бяспечна адпачываць каля вадаёма, паўтарылі тэлефоны службы выратавання. Дашкольнікі прымяралі на сабе ролі доктара, супрацоўніка ДАІ, выратавальніка.

З выхаванцамі старшых груп педагогі правялі тэматычную квэст-гульню «Урокі бяспекі». Дзеці паўтарылі важныя правілы пажарнай бяспекі, пазнаёміліся з патэнцыйна пажаранебяспечнымі сітуацыямі, якія могуць узнікнуць летам, даведаліся, што рабіць, каб іх прадухіліць. Нашы выхаванцы не толькі адказвалі на пытанні, паказваючы свае веды аб правілах бяспекі, але і гулялі ў разнастайныя гульні, выконваючы патрабаванні бяспекі.

Чытанне мастацкай літаратуры, прагляд і паказ тэатральных пастановак «Воўк і сямёра казлянят», «Бяспечная прагулка калабка» ўзбагацілі досвед і ўражанні выхаванцаў. Дыдактычныя гульні дапамаглі замацаваць практычныя навыкі бяспечных паводзін.

Каб летнія забавы прыносілі радасць, нашы выхаванцы паабяцалі выконваць правілы паводзін у лесе, на дарозе, дома, каля вадаёмаў.

**Алена ТРАСКОЎСКАЯ,**
**музычны кіраўнік яслаў-садка №15 горада Смаргоні.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**



Так праходзіў дзень «Лета цудоўнае – лета бяспечнае» ў смаргонскіх яслях-садку №15.



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Маладзечанец Мікалай Алейнік. Фота зробленае ў судзе Маладзечанскага раёна.

# Абласны суд пакінуў Алейніку 15 сутак

**8 ліпеня ў судзе Мінскай вобласці разглядалі скаргу Мікалая Алейніка на пастанову суда Маладзечанскага раёна 24 чэрвеня, вынесеную на Алейніка. Абаронцам Алейніка выступіў адвакат Ігар Касцюк, які прадстаўляў інтарэсы і ў Маладзечне.**

Касцюк хадайнічаў аб вядзенні відэаздымкі і допыце сведкі, які бачыў падзеі 19 чэрвеня ў раёне 22:15 на скрыжаванні Вялікага Гасцінца і Хмяльніцкага. Хадайнічаў і пра тое, каб далучыць да матэрыялаў справы заяву Алейніка ў пракуратуру аб правапарушэнні ў адносінах да яго. Выпіску з медыцынскіх дакументаў, паводле якой 20 чэрвеня Алейнік звяртаўся ў станцыю «хуткай дапамогі», калі быў у ізалятары часовага ўтрымання, і выпіска з меддакумента 22 чэрвеня. Да матэрыялаў прасіў дадаць публікацыю з партала тут.бай з каментарамі фатографа, які бачыў затрыманне. Заключэнне кардыёлага і выпіску аб стане здароўя, якія сведчаць аб праблемах з сэрцам ў Алейніка.

**Суд задаволіў хадайніцтвы часткова. Дакументы прыняў, а ў відэаздымцы і допыце сведкі адмовіў.**

24 чэрвеня суд Маладзечанскага раёна прызнаў Міколу Алейніка вінаватым па артыкулах 23.34 і 23.4 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях – парушэнне парадку арганізацыі ці правядзення масавых мерапрыемстваў і непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы. Прызначыў пакаранне – 15 сутак з моманту затрымання.

### Сутнасць скаргі

У скарзе Алейнік напісаў, што пастанову суда лічыць незаконнай і неабгрунтаванай. Таму што яна вынесеная на падставе паказанняў супрацоўнікаў міліцыі, якія не адпавядаюць рэчаіснасці. А тлумачэнні Алейніка, атрыманыя пры падрыхтоўцы справы, атрымалі з парушэннямі працэсуальнага заканадаўства.

**Звяртае ўвагу, што ў супрацоўнікаў міліцыі не працавалі відэарэгістратары, міліцыянеры яму не прадставіліся. Указвае на супярэчнасці ў паказаннях пацярпелага і сведкі. Што за час затрымання не мог аказаць супраціў.**

Алейнік скардзіцца, што яму было кепска, але меддапамогу яму не далі, пакуль не падпісаў пратакол. Што першыя паказанні былі атрыманыя пад ціскам. А таксама звяртае ўвагу на памылку суда – няправільна ўказаны час затрымання.

### На судзе

Пацярпелы па справе – камандзір групы АМАП УУС Мінаблвыканкама лейтэнант міліцыі **Баранаў**. Сведка – супрацоўнік АМАПа Мінаблвыканкама **Вячаслаў Якавенка**.

Абаронца патлумачыў. Па паказаннях Баранава і сведчаннях Якавенкі яны назіралі за Алейнікам. Палічылі, што маладзечанец заводзіў натоўп, выкрыкваючы лозунгі. Ад моманту затрымання да таго, як дайшлі да буса, прайшлі паўтары-дзве секунды, сказаў Баранаў. Пры гэтым Якавенка і Баранаў мусілі прымяніць фізічную сілу праз заломы рук за спіну. Адвакат Касцюк лічыць, што ў такіх умовах немагчыма аказаць супраціўленне і пры гэтым хапацца за форму.

Баранаў і Якавенка сказалі, што яго не білі, пасадзілі на сядзенне, адзначылі, што Алейнік не біў сябе сам.

**Алейнік жа сцвярджае, што яго кінулі на падлогу і білі па дарозе ў міліцыю. На думку абаронцы, збіццё пацвярджаюць меддаведкі. Пашкоджанні наступныя – гематома на спінцы носа, рана ўверсе спіны.**

Адвакат заўважыў, што рапарт Баранава, паказанні Якавенкі і тлумачэнне Алейніка супадаюць да апошняй коскі. Пры гэтым Якавенка казаў, што рапарт Баранава не чытаў. Касцюк падсумаваў, што ўвесь адміністрацыйны працэс праходзіў з парушэннем адміністрацыйнага заканадаўства, таму справу належыць спыніць.

Алейнік падтрымаў абаронцу. Дадаў, што ў РАУС гаварылі са здзекам, задавалі правакацыйныя пытанні, пагражалі прывязаць да крэсла.

**З-за кепскага самаадчування паставіў подпісы, дзе сказалі. Ён мае хранічнае сардэчнае захворванне. Пасля затрымання з'явіліся дыягназы, якіх раней не было. Давялося таксама наведваць псіхолага.**

### Пастанова

Суд Мінскай вобласці адмовіў Алейніку ў скарзе. Пастанову маладзечанскага суда змянілі толькі ў частцы даты затрымання, якая была ўказаная няправільна.

Алейнік сказаў карэспандэнтам «РГ», што будзе абскарджваць пастанову суда.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Святыні віленскага барока

**Івянец – старажытнае мястэчка, вядомае ад 14 стагоддзя. І ўвесь час тут існавалі храмы.**

На жаль, мы не маем амаль ніякіх звестак пра іх. Пра самы старажытны з вядомых, касцёл Святой Тройцы, мы вам зараз раскажам.



Касцёл Святой Тройцы.

### Касцёл Святой Тройцы

Драўляны касцёл Святой Тройцы пабудаваў на цэнтральнай плошчы Івянца ў 1606 годзе падскарбій Вялікага Княства Літоўскага **Ян Давойна-Салагуб**. Праз некаторы час, у 1709 годзе, касцёл згарэў. На тым месцы пабудавалі кальвінскі збор.

У часы контррэфармацыі храм перабудавалі ў каталіцкі касцёл і зноў асвяцілі ў гонар святой Тройцы. Архітэктарам гэтага двухвежавага храма быў італьянец **Ян Глаўбіц**. Хто непасрэдна кіраваў будоўляй, невядома. Ад 1662 года пры касцёле заснаванае Ружанцовае брацтва са сваім алтаром.

Праз некаторы час у Івянцы выбухнуў пажар, падчас якога пацярпеў і касцёл. Пасля гэтага яго адрэстаўравалі **Антоні Салагуб**, сын берасцейскага ваяводы, і яго жонка **Барбара** з Радзівілаў.

У артыкуле **Ярашэвіча** «Івянецкія касцёлы» (часопіс Ave Maria №2 2001 года) падрабязна апісваецца знешні і вонкавы выгляд бажніцы:

«Па сведчанні інвентара 1740 года, гэты касцёл «даўнейшай формы» падчас рэстаўрацыі ў пачатку 18 стагоддзя, тут былі папраўленыя «знешнія філяры (кантрфорсы), з якіх цэгла асыпалася».

Таксама ў інвентары паведамляецца, што ў касцёле знаходзіцца разьбяны паліхромны алтар з пазалотай, абразамі Тройцы, Маці Божай, апостала Пятра і скульптурамі святога Станіслава, святога Казіміра, святога Пятра і святога Роха. Алтар быў асвечаны ў 1736 годзе.

Расказваецца пра больш ранніх драўляныя алтары, якія былі ўпрыгожаныя пазалочанымі і пасярэбранымі калонамі. Адзін з іх быў прысвечаны Панне Марыі Вастрабрамскай. Яшчэ ў гэтым касцёле знаходзіліся алтары, прысвечаныя Міхалу Арханёлу і Антонію Падуанскаму. У капліцы-ратондзе, у атачэнні фігур анёлаў, стаяў асобны алтар з фігурай Маці Божай. Гэта капліца была пабудаваная за кошт **Антонія Арэшкі**.




План-рэканструкцыя кальвінскага збору ў сярэдзіне 16 стагоддзя.



Руіны касцёла Святой Тройцы. Від з боку рынкавай плошчы.

### Гадзіннік на вежы

Пасля таго, як у 1745 годзе быў пабудаваны мураваны касцёл, у адной з вежаў па загадзе **Брыгіты Салагуб** паставілі вялікі гадзіннік з меладычным боем праз кожную чвэрць гадзіны. У гэты ж час касцёл і закрыстыі былі накрытыя дахоўкай, вежы і гзымсы на фасадзе – бляхай, у дзесяць вокнаў уставілі налібоцкае шкло.

Як выглядаў абноўлены касцёл, апісвае інвентар 1767 года. Склаў яго **Антоні Грыбкоўскі**, пробашч івянецкі і дэкан мінскі. У гэтым інвентары расказвалася пра старадаўнасць сцен, мураваныя скляпенні і алтары, «элегантна» аздобленыя ляпнінай са штучнага мармуру. У гэтым дакуменце таксама гаворыцца пра тое, што з гэткага ж самага матэрыялу былі зробленыя скульптуры святога Пятра і Паўла, Яна Евангеліста і Яна Хрысціцеля, святых Амброзія і Аўгусціна.

Інвентар сведчыць, што хоры былі аздобленыя ляпнінай з гербамі фундатараў. На хорах стаяў арган, куплены за грошы Брыгіты Салагуб. Ён абышоўся ў 350 талераў. Таксама там знаходзіліся музычныя інструменты, набытыя за кошт **Канстанціна Рдултоўскага**. Гэта барабаны і трубы. Закрыстыі служылі сховішчам для архіва Салагубаў. Але з-за вільгаці яго перанеслі ў кляштар. Вільгаць была вялікай праблемай для касцёла. З-за яе былі пашкоджаныя нават абразы, якія знаходзіліся ў галоўным і бакавым алтарах.

Сам касцёл і касцельны двор былі абнесеныя мураванай сцяной з дзвюма брамамі – спераду і ззаду. Гэта сведчыла пра багацце касцёла, бо далёка не кожны храм мог дазволіць сабе такую агароджу .

Пры касцёле дзейнічала багадзельня. Там былі два пакоі. Тут дажывалі свой век 10 чалавек: пяць мужчын і пяць жанчын. Яны, ва ўдзячнасць за догляд, прыбіралі ў касцёле.

**Ігар СОЛТАН,**
**бібліятэкар Івянецкай гарпасялковай бібліятэкі.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

*Працяг будзе.*

● ХАКЕЙ

## Мельнік: «Гэта міжсезонне – самае няпростае за ўсе шэсць гадоў існавання «Дынама-Маладзечна»

Начальнік «Дынама-Маладзечна» **Дзмітры Мельнік** звярнуўся да заўзятараў у сувязі з пачаткам новага сезона.

Ён павіншаваў ад імя каманды і кіраўніцтва клуба заўзятараў з пачаткам сезона-2020/21. Маладзечанская каманда пачала рыхтавацца да сезона напрыканцы чэрвеня. У каманды прайшоў збор, на якім абноўлены трэнерскі штаб паглядзеў і адабраў маладых хакеістаў для новага сезона.

Па словах Мельніка, да старту Кубка **Руслана Салея** каманда плануе правесці некалькі таварыскіх матчаў.

– Гэта міжсезонне – самае няпростае за ўсе шэсць гадоў існавання «Дынама-Маладзечна». На нашы планы паўплывалі шматлікія фактары – і фінансавыя складанасці, і каронавірус, і падзеі, звязаныя з выбарамі. Але я ўпэўнены, што разам мы зможам пакінуць усе гэтыя праблемы ззаду і ў наступным сезоне зноў сустрэцца на трыбунах нашага Лядовага палаца, каб парадавацца перамогам любімай каманды.

**Прэс-служба «Дынама-Маладзечна».**

## Дзмітры Краўчанка распавёў, чаму сышоў з «Дынама-Маладзечна»

Беларускі спецыяліст **Дзмітры Краўчанка** патлумачыў, чаму не застаўся галоўным трэнерам «Дынама-Маладзечна».

– Па-першае, з Маладзечна не паступала ніякіх прапаноў. А па-другое, я і не настойваў.

Цяпер Краўчанка адпачывае ад трэнерскай кар'еры. Па яго словах, «Дынама-Маладзечна» не выплацілі заробак за красавік, адпускныя і прэміяльныя.

**Паводле by.tribuna.com.**

## Кальцоў: «Камплектаванне «Дынама» яшчэ не скончылася»

Галоўны трэнер «Дынама-Маладзечна» **Канстанцін Кальцоў** распавёў аб камплектаванні каманды і задачах на Кубак Салея.

Па словах галоўнага трэнера, камплектаванне яшчэ не скончылася. Маладзечанскае «Дынама» з'яўляецца фарм-клубам мінскага «Дынама», таму шмат у чым залежыць ад галоўнага клуба.

Кальцоў адзначыў, што ў камандзе ўпершыню вялікая канкурэнцыя ў абароне.

Галоўны трэнер падкрэсліў, што Кубак Салея для яго з'яўляецца толькі падрыхтоўкай да новага сезона.

– Я не надаю такога вялікага значэння гэтаму турніру. У цэлым групы аднолькавыя, у кожнага ёсць шанцы пазмагацца за выхад у фінал.

**Паводле belarushockey.by.**

● ФУТБОЛ

## «Смаргонь» прайграла «Лакаматыву»

Смаргонцы прайгралі гомельскаму Лакаматыву ў дададзены час. **Іван Маўчанаў** са смаргонскай каманды забіў адзіны мяч у першым тайме. У другім тайме супернікі адзначыліся двума галамі. **Павел Кляньё** зраўняў лік у другой палове матча, а **Павел Маркаў** забіў у дадатковы час. «Смаргонь» прайграла – 1:2. «Смаргонь» знаходзіцца на трэцім месцы ў першай лізе.

## «Ашмяны» згулялі ўнічыю з «Гомелем»

Матч у Ашмянах завяршыўся нічыёй. Ашмянская каманда сустракалася з гамельчукамі. **Януш Ладуцька** адзначыўся дакладным ударам і голам у другім тайме. Аднак напярэдадзе «Ашмяны» пабылі нядоўга: **Мікіта Някрасаў** зраўняў лік у гульні. «Ашмяны» займаюць дзявятае месца ў першай лізе.

## «Астравец» саступіў «Баранавічам»

Астравецкая каманда страціла ачкі ў выязной гульні супраць «Баранавічаў». Астраўчане не адзначыліся ніводным голам. Футбалісты сапернікаў забілі двойчы. **Дзмітры Хлебасолаў** і **Максім Кругленя** адзначыліся дакладнымі ўдарамі ў першым тайме.

## «Маладзечна» разграміла «Кронан»

Маладзечанская каманда згуляла апошні тур у Стоўбцах. Футбалісты ў сухую разграмілі сапернікаў з лікам 6:0. У першым тайме **Сяргей Галюк** і **Ігар Талькоўскі** аформілі па голу. У другім тайме мячы забівалі **Сяргей Тарчыла, Арцём Асмалоўскі, Сяргей Корсак, Яўген Марозаў**.

**Настасся УТКІНА.**




Мікіта Усціненка з'яўляецца адным з удзельнікаў дамоўнага матча.

Фота прэс-службы «Дынама-Маладзечна».

# Міжнародная федэрацыя хакея дыскваліфікавала семярых дынамаўцаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Міжнародная федэрацыя хакея дыскваліфікавала сем хакеістаў «Дынама-Маладзечна».**

Аб гэтым паведамляецца на афіцыйным сайце арганізацыі. Гульцоў абвінавацілі ва ўдзеле ў дамоўным матчы з «Магілёвам», які адбыўся 22 лістапада 2019 года.

### Ад Міжнароднай федэрацыі – часовая дыскваліфікацыя

Часовую дыскваліфікацыю атрымалі: **Павел Баярчук, Станіслаў Кучкін, Вячаслаў Лісічкін, Аляксей Іваноў, Мікіта Усціненка, Сяргей Шэлег** і **Аляксандр Сырэй**.

Справу хакеістаў перадалі ў Дысцыплінарны савет Міжнароднай федэрацыі для далейшага разгляду і прымянення санкцый.

Раней беларуская федэрацыя анулявала вынік матча. Іванова, Усціненку, Сырэя, Шэлега, Кучкіна, Баярчука і Лісічкіна дыскваліфікавалі і аштрафавалі.

### «Дзіўны матч» у Маладзечне

Гульня, якую назвалі беларускія спартыўныя СМІ «дзіўнай», адбылася 22 лістапада 2019 года ў Маладзечне. «Дынама» сустракалася з «Магілёвам». У сярэдзіне гульні дынамаўцы вялі з лікам 5:1, аднак прайгралі 5:6. Каціроўкі букмекераў на гэты матч таксама былі дзіўныя.

Праз некалькі дзён стала вядома, што з маладзечанскай каманды сышлі некалькі гульцоў. Яшчэ пазней Следчы камітэт паведаміў, што па выніках гэтага матча пачаўся разбор. А 22 кастрычніка прэсавая служба Следчага камітэта заявіла, што ўжо ўзбудзілі крымінальную справу.

Федэрацыя хакея Беларусі паведаміла, што ў адносінах да гульцоў, якія прынялі актыўны ўдзел у дамоўным матчы, прымянілі санкцыі: дыскваліфікацыя на адзін год і буйныя штрафы.

### Судовы разбор

У маі 2020 года пачаліся слуханні ў судзе Маскоўскага раёна Мінска. У арганізацыі дамоўнага матча абвінавачваюць чатырох гульцоў – Мікалая Усціненку, Сяргея Шэлега, Аляксея Іванова і Аляксандра Сырэя.

У дачыненні да Лісічкіна, Баярчука і Кучкіна вынеслі пастанову аб спыненні крымінальнага праследу (у сувязі з дзейным раскаяннем).

Гульцоў абвінавачваюць па артыкуле 253 Крымінальнага кодэкса «Подкуп удзельнікаў і арганізатараў прафесійных спартыўных спаборніцтваў і відовішчных камерцыйных конкурсаў».

Падчас судовага разбору стала вядома, што праверка матча паміж «Маладзечнам» і «Магілёвам» пачалася па асабістым указанні **Аляксандра Лукашэнкі**. Пра гэта падчас паказанняў паведаміў Мікіта Усціненка. Па словах хакеіста, пра ўсё гульцам расказала кіраўніцтва «Дынама» на сходзе каманды пасля «дзіўнага матча».

За дамоўны матч удзельнікі маглі б атрымаць да 15 тысяч долараў.

У маі прайшлі тры судовыя пасяджэнні, пасля разгляд справы на час прыпынілі. 7 ліпеня ў судзе Маскоўскага раёна Мінска разгляд крымінальнай справы аднавілі. Падрабязнасці – у наступным нумары «РГ».

**Настасся УТКІНА.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Патаўшчэнне скуры ці пухір з вадкасцю на руках або на нагах ад працяглага трэння.
3. Гульня, у якой адзін з удзельнікаў з завязанымі вачамі ловіць астатніх.
5. Пярэдняя частка галавы чалавека.
6. Водпуск, які даецца за звышурочную працу, дзяжурства, пры патрэбе.
7. Частка слова, якая мае лексічнае або граматычнае значэнне.
8. Асоба, па полу супрацьлеглая мужчыну.
11. Вучэбны дапаможнік для пачатковага навучання грамаце
12. Прадмет, метка, фігура, якія служаць для абазначэння.
13. Зменшаная ў мільёны разоў мадэль зямнога шара або нябеснай сферы.
15. Адміністрацыйны орган для аховы грамадскага парадку і бяспекі.
16. Месца, дзе развод сустракаецца раней за шлюб.
19. Майстэрства пісаць прыгожа і разборліва.
21. Найбольш вузкая частка тулава.
23. Поўны круг, зроблены пры вярчэнні.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Адзінка даўжыні ў метрычнай сістэме мер, роўная ста сантыметрам.
2. Палітычная арганізацыя краіны для захавання існуючага парадку.
4. Стук, шум ад удараў ног аб цвёрдую паверхню.
8. Беларускі і рускі народны музычны інструмент у выглядзе дудкі з раструбам.
9. Картачная масць з малюнкам чорнага крыжыка ў выглядзе трылісніку.
10. У заходнееўрапейскай міфалогіі — пачварнае чалавекападобнае карлікавае стварэнне, якое быццам бы ахоўвае падземныя скарбы.
11. Кавалак, абрэзак тканіны.
12. Трэцяя ад Сонца планета.
13. Поўнае разбурэнне, спыненне існавання (пры катастрофе, бедстве, наўмысным знішчэнні).
14. Спецыяліст у якім-небудзь рамястве.
17. Фарба, якая пад дзеяннем кіслот набывае чырвоны, а пад дзеяннем шчолачаў – сіні колер.
18. Неабходнасць.
20. Старадаўняе вялікае драўлянае мнагавёсельнае ваеннае судна.
21. Прылада для сячэння і склюдавання ў выглядзе насаджанай на драўляную ручку металічнай лопасці з вострым лязом з аднаго боку і з абухом з другога.
22. Водная прастора паміж мацерыкамі.

## Адказы на крыжаванку з №27

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Вароты. 3. Жалеза. 4. Волат. 5. Далонь. 7. Давер. 8. Раён. 10. Рагавіца. 13. Луг. 15. Дойлід. 16. Рубель. 17. Яшчэ. 18. Лімон. 21. Лічынка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Развілка. 3. Жухлы. 4. Ваза. 5. Доктар. 6. Ядро. 9. Жанр. 11. Кенгуру. 12. Валідол. 14. Верш. 15. Дабранач. 19. Жэрдка. 20. Лагчына. 22. Дызайн.

● ГАРАСКОП

## За што вас любяць



**АВЕН.** Вы гатовыя пайсці на любую актыўнасць, важную для блізкіх. І нічым не збіць вашу зацікаўленасць і гатоўнасць ісці на любыя рызыкі. Што б ні адбылося, вы заўсёды лёгка знойдзеце рашэнне, яшчэ і супакоіце.



**ЦЯЛЕЦ.** Вас любяць за шчырасць і праўдзівасць. З вамі можна быць упэўненым, што заўсёды будзеш у бяспецы. А яшчэ вы той самы чалавек, які трымае калектыў або кампанію. Будаваць сувязі паміж людзьмі ў вас атрымліваецца выдатна.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вы вельмі непрадказальныя, з вамі дакладна не засумуеш. У любой кампаніі вы проста феерверк, з якім і цікава, і прыемна. Адкуль бярэцца столькі энергіі і незвычайнасці, даводзіцца толькі гадаць.



**РАК.** Вы ўмееце паклапаціцца пра любога – незнаёмца, блізкага, нават жывёліну. І ўмееце разумець, што патрэбна менавіта зараз. Клопат і пяшчота патрэбныя кожнаму, за гэта вас і любяць.



**ЛЕЎ.** Вы не помніце няўдач, дробных крыўдаў і памылак. Навошта, ва ўсіх жа бывае. Таму кожнаму прыемна быць побач з чалавекам, які прымае цябе любым. Не толькі паспяховым і разумным, але і часам чалавекам з недахопамі.



**ДЗЕВА.** Ваш тонкі і пранізлівы розум – шэдэўр прыроды. Адкуль столькі ўсяго змяшчаецца ў вас адных, можна толькі здзіўляцца. Таму вас любяць за тое, што ў любой сітуацыі да вас можна прыйсці па параду. І вы заўсёды дасце найлепшы варыянт.



**ШАЛІ.** Вы настолькі шчыра любіце людзей, цікавіцеся імі, што гэта немагчыма прапусціць. Побач з вамі любы адчувае сябе патрэбным і цікавым, а гэта пачуццё дорага каштуе.



**СКАРПІЁН.** Магнетызм Скарпіёнаў – гэта легенда. Ён стварае асаблівы сусвет, у які калі аднойчы патрапіш, то вяртацца назад ужо не захочацца. Уменне ствараць новыя сусветы настолькі каштоўнае, што з гэтым мала што можа параўнацца.



**СТРАЛЕЦ.** Вы самі вялікі барацьбіт за справядлівасць. Што б ні адбылося, вы заўсёды зможаце падтрымаць і абараніць. Вы змагаецеся не толькі за правы, але і за тое, каб дарагія людзі адчувалі сябе любімымі.



**КАЗЯРОГ.** Больш за ўсё вас любяць за надзейнасць. Нават калі вакол катастрофа, вы выканаеце тое, што абяцалі. І нават у тэрмін. Вы зробіце ўсё, каб самыя важныя рэчы заўсёды былі ў блізкіх людзей. І заўсёды падтрымаеце.



**ВАДАЛЕЙ.** Ваша шчырая жыццярадаснасць – гэта дар, які вы дорыце і сабе, і іншым. Нават у самай няпростай сітуацыі вы знаходзіце пазітыў і пераконваеце іншых, што гэта важней, чым любы негатыў.



**РЫБЫ.** Вы як падарожнік для любой ранкі. Разумееце і прымаеце ўсё, што вам расказваюць. Таму менавіта вам людзі давяраюць самыя патаемныя таямніцы.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | | | | | | 2 | | 7 |
| | | 8 | | 1 | | 3 | 5 | |
| | | | | | | 9 | 8 | 1 |
| | 4 | | | 9 | | 6 | | |
| 9 | 8 | | | 3 | 6 | | | |
| 3 | | | | | 4 | 1 | | |
| | | | 6 | 2 | | | | 3 |
| 6 | | | | | 7 | | | 5 |
| | 7 | 9 | | | | 4 | | 2 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by






Фота са старонкі ў інстаграм «Рыбалка ў Беларусі».

# На Вілейскім вадасховішчы злавілі вялізнага шчупака

ВІЛЕЙКА

**Інфармацыю і фотаздымак размясцілі ў суполцы «Рыбалка ў Беларусі».**

Вага рыбы – 9 кілаграмаў 150 грамаў.

Як паведамляюць тэматычныя парталы, шчупак вагой ад васьмі кілаграмаў ужо лічыцца буйным. У Беларусі буйныя шчупакі – з'ява рэдкая. Бо рыбакі асабліва зацікаўленыя гэтым відам рыбы.

У канцы 2019 года ў Вілейскае вадасховішча Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў выпусціла 14 500 шчупакоў. Праўда, невялікіх. Кожная рыбіна важыла каля чатырохсот грамаў.

**Аддзел інфармацыі.**

## Чытайце праз тыдзень:

- Базар у каранавірус. Як вірус змяніў рынак райспажыўтаварыства і ці адбілася на гандлі пандэмія.

## 11 ліпеня, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 7-8 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература +6,5°С у 1986 годзе
Максімальная тэмпература +32,5°С у 2006 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 26,2 мм у 1978 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Што вы ведаеце пра Крэва?



**Алёна Януць, у дэкрэтным адпачынку, Нарач, Мядзельскі раён:**

– Пра Крэўскую унію 1385 года. І тое, што засталося ад Крэўскага замка.



**Злата Кіткевіч, настаўнік, Астравец:**

– Крэва – вельмі значная мясціна, якая знаходзіцца ў Смаргонскім раёне. Першае ўпамінанне – у 1330-х гадах. У 1385 годзе ў сценах Крэўскага замка падпісаная Крэўская унія. А ў 1382-м князь Ягайла забіў свайго дзядзьку Кейстута, таксама ў сценах замка.



**Максім Завадскі, токар, Маладзечна:**

– Думаю, як і ва ўсіх са школьнай праграмы, першай успамінаецца Крэўская унія. У Ашмянскім раёне жывуць бацькі, і калі еду праз мястэчка, на замак без слёз не глянеш. Можна ж было б зрабіць прывабнае для турыстаў месца. На жаль, дзяржава наша ў гэтым інтарэсу не бачыць.



**Марыя Барахоўская, загадчыца аддзела краязнаўчай літаратуры, Вілейка:**

– Крэва, аграгарадок, дзе знаходзіўся адзін з першых замкаў ВКЛ. Яшчэ там заключылі унію паміж ВКЛ і Польскім каралеўствам. Ягайла, брат Вітаўта, пабраўся шлюбам з польскай каралевай Ядвігай і стаў польскім каралём.



**Таццяна Тамашэўская, вядучы інжынер-праграміст, Смаргонь:**

– Асноўная славутасць вёскі Крэва – замак-Кастэль з каменя і чырвонай цэглы, першы цалкам каменны замак у ВКЛ. Замак-помнік архітэктуры і гісторыі. Тут быў падпісаны дакумент, які паўплываў на ход усёй еўрапейскай гісторыі – акт Крэўскай уніі.



**Аксана Траска, цырульнік, Маладзечна:**

– Гэта Гарадзеншчына, адтуль родам мае прабабуля і прадзядуля. Месца гістарычна каштоўнае, адно з самых старажытных, шмат легенд пра яго ў Беларусі. Ёсць рэшткі замка. Была там праездам у дзяцінстве. Ёсць жаданне наведаць гэты край.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**




Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№28 (1315) 10.07.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1136. Падпісана ў друк у 9.00 9.07.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.